
Ірына Герасімюк ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Юбілей «Васілёчкаў» ➔ 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 48 (3316) Год LXIV Беласток, 1 снежня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Аддадзеная апошняя павага
## — пахаванне Кастуся Каліноўскага ў Вільні

22 лістапада ў Вільні прайшлі ўрачыстасці пахавання Кастуся Каліноўскага і дзевятнаццаці іншых паўстанцаў. На трохдзённыя ўрачыстасці ў Вільню з'ехала, паводле падлікаў, каля сямі тысяч чалавек. Прыехалі з бел-чырвона-белымі сцягамі, нарукаўнымі павязкамі, дабіраліся індывідуальна і ў арганізаваных групах. У асноўным былі гэта беларусы з усяго свету, у тым ліку некалькі дзясяткаў беларусаў з Польшчы. Многія ўдзельнікі ўрачыстасці лічылі, што тут з'явілася чарговае месца нацыянальнай памяці беларусаў, бадай ці не найважнейшае ў гэты час.

Фотарэпартаж Уршулі ШУБЗДЫ


■ «Калі ідзе пра існаванне ў беларускай нацыянальнай свядомасці Каліноўскага, то першым яго ўвёў у нацыянальную свядомасць гісторык родам з Беласточчыны Усевалад Ігнатоўскі, які ў сваёй працы пра гісторыю Беларусі ўпершыню напісаў пра такога героя, як Кастусь Каліноўскі. Калі людзі забываюць, то пачынаюць гаварыць камяні. Да гэтай антычнай думкі можна аднесці сёняшнюю падзею. Бо проста зараз мала хто ведае, кім быў Кастусь Каліноўскі», — сказала прафесар Лена Глагоўская ў час афіцыйнага адкрыцця помніка Кастусю Каліноўскаму ў яго родных Мастаўлянах.



■ Некалькі тысяч людзей удзельнічала ў апошняй дарозе паўстанцаў 1863-1864 гадоў. Прайшлі яны са сцягамі з Кафедральнай плошчы на могілкі Росы.


■ Віктар Сазонаў, Юры Глебік і Уладзімір Хільмановіч — пачынальнікі і шматгадовыя арганізатары ўрачыстасцей у памяць паўстанцаў, а таксама Кастуся і Віктара Каліноўскіх у Свіслачы і Якушоўцы.


працяг ➔ 12
■ Перад Кафедральным касцёлам Вільні і на плошчы перад ім. Луналі бел-чырвона-белыя сцягі беларусаў, якія прыехалі з розных куткоў свету, у тым ліку з Падляшша. Злева: Алег Латышонак, Яўген Вапа, Лукаш Плева, Нікан Шэрэмэта


9 770546 196017



# Бела-чырвона-белае неба

Бела-чырвона-белае неба над Вільняй... Куды не глянеш, паўсюдна гэтыя колеры. І прама, і направа, і налева... І па лініі далягляду, і вышэй лініі далягляду... І яшчэ вышэй таксама... Паўсюдна! Вышэй толькі Бог!

Здавалася, што ў гэтыя дні і само Воінства Нябеснае ўзяло ў рукі бела-чырвона-белыя сцягі! Бо ўсё неба ў тых сцягах! А на Зямлі іх так шмат, што напэўна нехта і з самога неба таксама зышоў з імі на грэшную зямлю і стаў у калону сярод прысутных тут людзей... Так ганарова і годна стаялі тыя людзі, што не грэх і не сорам было да іх далучыцца ў гэты дзень і нябеснаму воінству!

Увогуле, у гэтыя дні цяжка было адрозніць зямное ад нябеснага... Воля, Праўда, Роўнасць, Свабода, Беларусь... Гэта зямное ці нябеснае?! Напэўна нябеснае. Але і на Зямлі за гэта змагаліся... Змагаліся тыя, чые парэшткі з гонарам і годнасцю перазахоўвалі ў Вільні...

Вялікага змагара за гэтыя святыя ідэі Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў 1863-1864 гадоў прыйшлі ўшанаваць кіраўнікі Літвы і Польшчы... З Беларусі таксама прыехала вялікая дэлегацыя. Ад беларускага народа... І са складу беларускага народа...

І не толькі з Беларусі прыехалі сюды нашчадкі тых, хто аддаў сваё жыццё за такое неба... З Польшчы, з далёкай Амерыкі, з іншых куткоў сюды з'ехаліся беларусы... А дзе ж ім быць у такі дзень?! Вядома ж, што тут! Тут, дзе зараз разварушыўся Вялікі Дух іх Слаўных Герояў! Дух, які трэба ўзяць і развесці па ўсіх кутках, адкуль прыехалі беларусы.

Каб ён яднаў іх, той Дух. Каб трымаў і падтрымліваў! Каб даваў ім сваю Сілу, Веру, Праўду, Прагу да Свабоды і Волі, Прагу да Справядлівасці!

Вецер... Марозны вецер разгортвае шматлікія бела-чырвона-белыя сцягі і пранізвае аж да касцей усіх, хто іх трымае. Так трэба. Толькі так і трэба! Каб прысутныя яшчэ раз адчулі, як было ім, змагарам Кастуся Каліноўскага, якія не адседжваліся ў цёплых хатах, а ішлі ў лясы і ў дождж, і ў холад, і ў мароз...

Ну і добра, што вецер... Хай разгортвае сцягі на ўсё неба... Яны ў гэты дзень адсюль былі відаць па ўсім свеце, тыя сцягі! Кожны іх убачыў! І хто хацеў, і хто не хацеў! Нават тыя, хто не прыехалі, і тыя ўбачылі! Нават тыя, хто да гэтага дня не ведаў пра іх, ужо ведаюць! Нават тыя, хто не хацеў іх бачыць, не змог гэтым разам не заўважыць!

Ну а тыя, што хацелі імі мілавацца, хто трымалі іх, што прыехалі сюды з розных куткоў, каб ушанаваць памяць Герояў, тыя на свае вочы ўбачылі Беларускі Шлях на самым Небе! Ён Бела-Чырвона-Белы, той Беларускі Шлях!

Зрэшты, гэта і раней было вядома.

Постаці паўстанцаў Каліноўскага, і самога Кастуся настолькі вялікія, што імі ганарацца і кіраўнікі ды прадстаўнікі адразу некалькіх краін. Кожны народ хоча спрычыніцца да памяці і велічы гэтых герояў. Кожны хоча ўзяць належную яму крупіну Славы, Гонару і Пашаны... Але ніхто не адмаўляе беларусам у галоўнай ролі гэтага мерапрыемства. Беларускаму народу ніхто не адмаўляе... Хай сабе хоць не як галоўнаму арганізатару гэтых урачыстасцей, але як галоўнаму ўдзельніку то дакладна.

Ён, беларускі народ, хоць ішоў за афіцыйнымі асобамі іншых краін, але здавалася — тут ён быў увесь... Духам, то дакладна ўвесь! А народ і ёсць галоўны ўдзельнік. Бо не народ для ўрада, а ўрад для народа. Гучаць тут гэтыя незабыўныя словы Кастуся Каліноўскага, як і іншыя, неўміручыя, якіх ужо ніколі не ўдасца задушыць.

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!

— Ну то ўзаемна! — так вітаюцца і развітваюцца прысутныя.

І шмат яшчэ гучыць рознага, у тым ліку і з рыторыкі тых далёкіх слаўных часоў, калі кожны беларус адчуў сябе роўным і свабодным сярод такіх як ён, і добраахвотна ішоў змагацца за Волю! За сваю Волю!

Шэсці, малебны, урачыстых канцэрт, развітальны салют... І, вядома ж, неўміручае: „Жыве Беларусь!".

Тысячы бела-чырвона-белых сцягоў вяртаюцца назад, у Беларусь. Толькі цяпер у кожным з іх захутана часцінка Вялікага Духу змагароў за Волю! І як яны разгарнуцца, каб выпусціць той Дух у сябе на Радзіме, то неба і над усёй Беларуссю стане бела-чырвона-белым.

Віктар САЗОНАЎ

# Учора
## ў чалавечай скуры



Адно дзіця папрасілі пералічыць дні тыдня, якія пачынаюцца з літары «а», яно праўдзіва адказала, што «аўторак». Падумаўшы, яно дадало: Але не толькі «аўторак», бо гэта яшчэ... «а ўчора». Таксама праўда! Лагічна, што «ўчора» ў круцільным крузе тыдня — правільны адказ, бо серада і чацвер за «а ўчора», нават сам «аўторак».

Прыведзены анекдот ілюструе прыклад творчага мыслення дзяцей, пазбаўлены схематызму і правілаў, усталяваных інтэлектуальнай звычкай. Гэта тычыцца мыслення ў цэлым, але і практычнага палітычнага мыслення. Чамусьці мы прызвычаіліся да таго, што цяперашняя ўлада, прадстаўленая Правам і справядлівасцю, надзвычай несхематычная. Але ці творча?

Мы цэнім творчых людзей у цэлым. Культавы Альберт Эйнштэйн — прыклад гэтаму. На яго творчы аўтарытэт спасылаюцца і правыя, і левыя палітыкі, якія прадстаўляюць ідэалагічна экстрэмальныя погляды, і сярэднія едакі хлеба, заціснутыя паміж іх гучным буркатаннем. Стары Альберт (прабачце за вычварную фамільярнасць) заслужыў гэта з нетрадыцыйным розумам, які выйшаў далёка за рамкі думак яго даўно мінулых часоў. Але ж кожны мае свае межы. Добра вядомы факт, што эпоха, у якой мы жывем, вызначае нашы кагнітыўныя звычкі — у якой выяўляюцца фіксаваныя перакананні, інтэлектуальныя і эмацыйныя адносіны і ўзровень засваення сучасных ведаў — якія, у сваю чаргу, акрэсліваюць мяжу нашага разумення свету. І толькі іх рызыкоўнае перасячэнне дазваляе бачыць голую рэчаіснасць — якая ёсць сапраўды, не ў камуфляжы альбо змачанай. На жаль, не ўсе мы нарадзіліся Эйнштэйнам! Дык што гэта за рэальнасць? А чорт яго ведае! Я лічу, што д'яблаў няма. Дык, можа, замест іх равуць палітыкі, якія гучна сведчаць аб рэчаіснасці? Можа, некалькі Ендрашэўскіх у фіялетавых расах? Ну, я не ведаю, не ведаю, не ведаю... як кажа мая знаёмая, сумняваючыся прынцыпова ўва ўсім. Яе сумніўнае стаўленне — неабавязкова творчае. Але нічога, вострую адсутнасць «творчага мыслення» запаўняе яна любой «творчасцю». Мне нават здаецца, што гэта рыса агульная. Такім чынам, мы ўсе (зразумела, акрамя саміх сябе) ствараем тэорыі змовы, больш-менш інтрыгуючыя чуткі, ілжывыя перакананні — хаця часцяком заснаваныя на нейкіх лагічных перадумовах, але ў іх корані звычайна абцяжараныя няправільнымі лагічнымі здагадкамі. Тым не менш, мы настойваем на тым, што гэта творчае, паказальнае, вечнае і адзінае. Падводзячы вынік, тое, што мы часцей за ўсё ствараем, неабавязкова творчае. Такім чынам, неабходна рабіць адрозненне паміж творчым мысленнем і стварэннем мыслення, які часам называюць выдумкай. Існуе розніца паміж імі, напрыклад, паміж даспяваннем збожжа ў полі і хрумсткім хлебам, вынятым з гарачай печы. Ці, напрыклад, паміж галодным пажыральнікам і сейбітам, якія размяркоўвае зерне направа і налева. Ці нават той, які ўзнікае паміж папуліцскай дзейнасцю ПіС, якое лісліваць непасрэдным чаканнем шырокай грамадскасці, і прасацыяльнай палітыкай кожнай улады, якая займаецца цяперашнім і будучым дабрабытам грамадства. Гэтак жа, як ёсць відавочныя прычыны, чаму цяперашнія ўлады займаюцца размеркаваннем усіх плюсоў — таму, што гэта палітычна і часова выгадна — гэта так відавочна, што атрымальнікі 500 плюс, пенсія плюс, жыллё плюс і г.д., прымаюць іх без цэню разважанняў, і нават не асцерагаючыся, што яны самі панясуць выдаткі. Калі не сёння, то заўтра. Няўжо так цяжка зразумець? Але, як амерыканскі сацыялізуючы грамадскі пісьменнік Антон Сінклер выказаў гэта ў XX стагоддзі: «Цяжка прымусіць чалавека нешта зразумець, калі яму плацяць за тое, каб не разумеў гэтага». Творчае мысленне перавышае жорсткія межы часу. Гэта перспектыўнае, несхематычнае, наватарскае, стымулюючае і прадбачваючае будучыню. Мысленне творчае настолькі творчае, што перамяшчае тыя ж устаноўленыя якасці з месца на месца. Гэта толькі перастаноўка старой і даўно не адрамантаванай кватэры, каб пакрыць яе новай канфігурацыяй мэблі і дыванбў квітнеючыя лішаі на сценах і пацёртай падлозе. Я не маю нічога да ПіС. Літаральна нічога. Толькі ці ўсе дні тыдня трэба называць «учарашнімі»? Ці ўчарашняя Другая Рэч Паспалітая са сваімі шматлікімі ідэалагічнымі недахопамі і кульгавай філасофіяй дзяржавы паўтарацца ў Трэцяй? Можа, у чорт ведае ў каторай. Толькі д'яблаў няма. Ну, хіба толькі ў чалавечай скуры.

Міраслаў ГРЫКА

# Новы адлік
# ад Каліноўскага



Віленскае ўрачыстае перапахаванне герояў і ахвяр вызвольнага чыну 1863 года для беларускай нацыі стала пакуль найбольш знакавай падзеяй XXI стагоддзя. Усе, хто змог прысутнічаць у гэтыя лістападаўскія дні ў старажытнай крывіцкай сталіцы, праз гады будуць успамінаць свае пачуцці, расказваць дзецям і ўнукам уражанні перажытага ўшанавання. Усе, хто дажыве да сапраўднай незалежнасці нашай краіны Беларусі, будуць пазней згадваць гэтую падзею як найважнейшую вяху Адраджэння.

Перапахаванне, ці як слушна кажуць многія, пахаванне паўстанцаў, стала сакральным актам яднання сучасных беларусаў. Не магу прыгадаць ці была нейкая падобная падзея такога перапахавання ў еўрапейскай гісторыі. Гістарычная праўда адкрываецца не заўсёды хутка, гістарычная справядлівасць у дачыненні да людзей і з'яў — тым больш. У гісторыі з пакараннем паўстанцаў смерцю акупантамі і хаваннем месца, дзе карнікі іх закапалі ў зямлю і засыпалі вапнай, прайшло ажно паўтара стагоддзя. Прайшло доўгіх 155 гадоў! Не пахавалі тады павешаных і расстраляных змагароў, пахавалі годна цяпер. Пахавалі з надзвычайнай пашанай і ідэальнай арганізацыяй, з удзелам высокіх хрысціянскіх святароў. Пахавалі на дзяржаўным роўні, з прысутнасцю прэзідэнтаў дзвюх дзяржаў — Польшчы і Літвы, з прысутнасцю дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі. Хай сабе на роўні віцэ-прэм'ера ўрада, якога амаль ніхто не ведаў да гэтай знакавай падзеі. З сімвалічнай прысутнасцю ў кафедральным саборы на праспекце Гедыміна вянкоў ад Латвіі і Украіны, насельнікі якіх таксама ўдзельнічалі ў вызвольным паўстанні. І з сапраўдным морам бел-чырвона-белай сімволікі, якая запоўніла вялікі пляц наўкола кафедральнага сабора.

Па розных звестках і ацэнках нас прыехала ў Вільню ад 3 да 7 тысяч чалавек. Прысутнасць на ўрачыстых мерапрыемствах такой колькасці беларусаў з такой колькасцю бел-чырвона-белых сцягоў была надзвычай уражальнай. Нехта ўспамінаў пахаванне Васіля Быкава, нехта Плошчу 2010 года, нехта палітычныя мітынгі пачатку дзевяностых гадоў. Асабіста я бачыў такую колькасць нашых нацыянальных сцягоў толькі аднойчы, у 1995 годзе на футбольным матчы ў Менску Беларусь — Нідэрланды. Тады якраз прайшоў фальшывы рэферэндум, у выніку якога гістарычны і дзяржаўны сцяг і герб Пагоня былі заменены на псеўданавуковую сімволіку, узятую на аснове савецкай. І людзі прыйшлі на стадыён з сотнямі бел-чырвона-белых сцягоў, дэманструючы сваю пазіцыю. Зараз яшчэ раз усе, на гэты раз і суседзі, пераканаліся, якая сімволіка для беларусаў жывая, родная, святая і жыватворная.

Акрамя беларусаў з розных гарадоў краіны, у Вільню прыехалі і беларусы з розных дзяржаў замежжа, беларусы з Падляшша — радзімы Кастуся Каліноўскага, прыехала Рада БНР. Тое, што на ўрачыстасцях у Вільні было няшмат літоўцаў і палякаў, мяне не здзівіла, паколькі яны ўжо даўно ўсё даказалі сабе і іншым, пераканаўча давялі свае правы „людзьмі звацца", здабылі вольнасць і ўмацоўваюць сваю дзяржаўнасць. Крыху здзівіла хіба малая колькасць прысутных палякаў Віленшчыны. Па размовах высветлілася, што прыехалі людзі пераважна з невялікіх мясцовасцей Польшчы. Выступы прэзідэнтаў Анджэя Дуды і Гітанаса Наўседы былі ўзважанымі і ўрачыстымі. Назіралася еднасць трох суседніх народаў на глебе агульнай гісторыі і каштоўнасцей. За некалькі гадзін стаяння на марозным паветры ля кафедральнага сабора і публічнай трансляцыі памінальнага набажэнства, урачыстай цырымоніі развітання ўдалося перагаварыць з многімі літоўцамі, некаторымі, пераважна маладымі, палякамі. З усімі было поўнае паразуменне, салідарнасць і яднанне на глебе ўрачыстай падзеі, жалобнай па характары, але святочнай па сутнасці.

А пасля было шэсце даўжэзнай калонай з гучнымі воклічамі „Жыве Беларусь!" і „За нашу і вашу свабоду!", са спевамі нацыянальных беларускіх гімнаў, шэсце бел-чырвона-белым морам па былых вуліцах Замкавай і Вялікай, уздоўж Базыльянскіх муроў, праз Вострую браму на могілкі Росы. Там, у капліцы, цяпер новае месца паломніцтва патрыётаў. Там цяпер парэшткі нашага вялікага героя Кастуся Каліноўскага, які зараз яднае нацыю.

А ў нашай гісторыі пачаўся новы адлік...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Настаўнікі роднай мовы

# Школа — наша вялікая сям'я, а ў сям'і трэба дапамагаць!

— **Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Ужо з дзіцячых гадоў я любіла гуляць з сяброўкамі ў школу. Мая старэйшая сястра Надзя Міхальчук, таксама настаўніца, зараз ужо на пенсіі. У нашай сям'і гэта традыцыя.

— **Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Калі думаю пра свае школьныя гады, мне ўспамінаюцца многія настаўнікі. Яны часта былі для мяне прыкладам. Урокі беларускай мовы ў нашым ліцэі вёў спадар Васіль Сакоўскі. Гэта чалавек добразычлівы, з цёплым падыходам да вучня.

— **Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Праз гады маёй працы ў школе я супрацоўнічала з многімі настаўнікамі. На прадметных канферэнцыях мы абменьваліся вопытам, дапаможнікамі.

— **Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Беларускае грамадска-культурнае таварыства ладзіць для дзяцей і моладзі шматлікія конкурсы. Дзякуючы ім дзеткі могуць праверыць свае магчымасці, маюць нагоду сустрэцца з іншымі школьнікамі. Аб'яднанне АБ-БА арганізавала некалькі цікавых і карысных сустрэч для настаўнікаў.

— **Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Я заангажаваная ў праект «Да развіцця праз індывідуалізацыю» (Ku rozwojowi poprzez indywidualizację). Апрача гэтага — «Гульня ў тэатр», «Велікодныя абрады», «З куфра маёй бабулі».

— **Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Кожны год я арганізую ў школе дэкламатарскі конкурс «Роднае слова». Найлепшых дэкламатараў пасылаем на раённы этап.

— **Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Вельмі важную ролю ў нашай школе адыгрываюць бацькі. Бацькі і школа — наша вялікая сям'я, а ў сям'і трэба дапамагаць. Бацькі прысутнічаюць і дапамагаюць ва ўсіх школьных мерапрыемствах цягам цэлага навучальнага года.

— **Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— У нас прынята, што ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Але і настаўнік павінен так весці ўрокі, каб заахвоціць дзетак да гэтага прадмета.

— **Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Гэта залежыць ад групы ў класе. З некаторымі за тры гадзіны можна рэалізаваць шмат.



**Ірына ГЕРАСІМЮК** (дзявочае прозвішча Галёнка) нарадзілася ў вёсцы Пасечнікі-Вялікія на Гайнаўшчыне. Закончыла Варшаўскі ўніверсітэт па спецыяльнасці беларуская філалогія і пачатковае навучанне. У школе ў Арэшкавае працуе 29 год як настаўніца пачатковага навучання і беларускай мовы. Раней працавала ў Трасцянцы, Грабаўцы і Махнатым. Жыве ў Гайнаўцы.



■ Ірына Герасімюк з сястрой Надзяй Міхальчук настаўніцай беларускай і рускай моваў

— **Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Не.

— **Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Па-рознаму бывае. Таму трэба карыстацца іншымі крыніцамі. Пра жыццё, працу сваіх равеснікаў дзеткі даведваюцца чытаючы «Зорку».

— **Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Лемантар».

— **Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Віктар Швед, Ларыса Геніюш, Авяр'ян Дзеружынскі.

— **Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— «Пожня» Васіля Петручука, вершы беларускіх паэтаў.

— **Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так, чытаю «Ніву». З малодшымі вучнямі на ўроках часта працуем з «Зоркай». Вучні чытаюць казкі, знаёмяцца з творчасцю равеснікаў з іншых школ, рашаюць загадкі, размалёўваюць малюнкі.

— **Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Усе беларускія мерапрыемствы дастаткова цікавыя і вельмі патрэбныя — «Купалле», «Культура на музейных сходах», «Басовішча».

— **Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляю з тымі, якія хочуць размаўляць па-беларуску.

— **Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Я заўсёды стараюся памятаць тое, што добрае.

— **Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Найбольш стамляюць мяне людзі, якія не маюць пашаны для другога чалавека.

— **Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Пэўна, так.

— **Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— На працягу маёй шматгадовай працы я атрымала ўзнагароду інспектара асветы і выхавання ў Дубічах-Царкоўных, узнагароду дырэктара школы ў Арэшкаве, узнагароды старшыні Праўлення Таварыства «Эдукатар» у Ломжы.

— **Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу да працы даюць мне поспехі вучняў, задавальненне дзетак і бацькоў, усмешкі на тварах наймалодшых вучняў.

— **Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Праца з цудоўным дзеткамі — гульня ў тэатр «Бай».

— **Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Старажытны герб «Пагоня», старажытны бел-чырвона-белы сцяг. Ёсць і рэгіянальная ізба «Наша хатка», якая пастаўленая дзякуючы вялікім намаганням бацькоў. Першыя экспанаты гадамі збіралі вучні, а апошнія прыдбалі бацькі.

— **Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Хацелася б, каб беларусы ганарыліся сваёй мовай, сваёй культурай — гэта наша спадчына. Каб нашы дзеткі памяталі аб родным. Але ж гэта ў вялікай ступені залежыць і ад нас дарослых.

Апытальнік правяла Ганна **КАНДРАЦЮК**

## Навіны з гміны

Сёлетні бюджэт Чаромхаўскай гміны складае 14 435 214,62 зл. на баку прыбыткаў і 13 249 175,14 зл. на баку выдаткаў. Самаўрад не абцяжараны даўгамі. А вось як рэалізаваліся ў гэтым годзе інвестыцыйныя задачы. У асноўным тычыліся яны апрацоўкі тэхнічна-будаўнічай дакументацыі. І так:

1 — выкананне дакументацыі каналізацыйнай інфраструктуры на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны, заканчэнне пабудовы праектаванай сеткі ў Чаромсе — 11 000 зл.

2 — закупка глыбіннай помпы для гідрафорні — 13 722 зл.

3 — выкананне дакументацыі фотаэлектрычных установак — 763 738,28 зл. — у тым ліку кошт уласны гміны 158 947,08 зл. і датацыя 603 791,20 зл.

4 — апрацоўка тэхнічнай дакументацыі пабудовы гмінных дарог (на вуліцы Вішнёвай і прылеглых вулачак), таксама кампенсацыя за перанятую гмінай зямлю — 168 100 зл.

5 — апрацоўка праекта пункта селектыўнага збору адпадаў — 40 000 зл.,

6 — закупка камунальных машын для належнага ўтрымання ў добрым стане дарог і пабочын на працягу года (плужны снегаачышчальнік, касілка для травы) — 71 000 зл.

7 — выкананне грэйфераў для мячоў пры спартыўнай пляцоўцы „Орлік" — 30 000 зл.

Агульны кошт інвестыцыйных задач у гэтым годзе складае суму 1 097 560,28 зл., у тым ліку кошт уласны — 493 769,08 зл. і 603 791,20 зл. датацыі. Кіраўнік Гміннай камунальнай гаспадаркі Ірыней Леанюк заявіў, што ў наступным годзе плануецца пабудова дарогі Чаромха-Сяло — Кузава, а таксама вуліцы Дзібуа ў Чаромсе (у напрамку воданапорнай вежы і чыгуначнага пераезда на дарозе Чаромха-Сяло — Кузава). Кошт гэтай задачы складае суму 3 800 000 зл. Дзеля гэтай справы гміна пахадайнічае за неабходнымі датацыямі ды дадатковым фінансаваннем.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Равы ў Плянце

Плянта — адна з вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета складаецца з трох частак: дзве з іх раздзяляе чыгунка з Гайнаўкі ў Семяноўку, трэцяя за лесам і паабапал павятовай асфальтавай шашы ў напрамку Семяноўкі. У сяле пражывае 150 чалавек.

У сярэдняй частцы вёскі (яна побач чыгункі) цягнуцца прызабытыя доўгія равы. Яны ўжо зараслі травой ды высокімі кустамі. У равах поўна апалага лісця і голля. Пасля праліўнога дажджу стаіць вада ў равах ды зямля размоклая. У каго пад дамамі ёсць г.зв. піўніцы на агародніну і фрукты, у іх прасочваецца вада. Таму жыхары дамоў, каля якіх цягнецца роў, патрабуюць давесці яго да парадку. У ім у першую чаргу неабходна ссячы густыя кусты ды ачысціць роў ад мулу. Гэтую справу накіроўваем перш-наперш да мясцовага раднага і солтыса.

Варта дадаць, што пра чыстку равоў і прапускныя трубы ў Плянце раней клапаціўся тамашні ніўскі карэспандэнт Уладзімір Клімюк. І калі яго не стала, зараз няма каму заняцца добраўпарадкаваннем равоў.

## Даехаць у Саўляны

Яшчэ чатыры гады таму ў вёску Саўляны каля Беластока ездзіла мала аўтобусаў гарадской камунікацыі і толькі адной лініі „13". Калі якраз не было пасажырскага аўтобуса, нематарызаваныя жыхары гэтага сяла часта хадзілі 2 км пешшу з канца вуліцы 42 Пяхотнага палка. Позна вечарам ды ноччу (асабліва калі на двары стаіць позняя восень або зіма) адзінокаму страшнавата было ісці кавалак дарогі цераз лес.

Зараз гэта, так бы мовіць, ужо гісторыя. Цяпер па буднях аўтобусы лініі „13" ездзяць, падумаць толькі, 14 разоў у суткі, а ў выхадныя на палавіну менш. Апрача таго ў Саўляны пачалі ездзіць аўтобусы лініі „1": па буднях тры разы і толькі пасярод дня ды ў нядзелі... шэсць разоў, між іншым, таму, каб саўляне і не толькі яны маглі даехаць у касцёл у Грабаўцы на нядзельнае набажэнства і вярнуцца дадому (па суботах у Саўляны не ездзіць ні адна „адзінка" гарадской камунікацыі). **(яц)**

**Biuro Główne**
Jeronimo Martins Polska S.A.
ul. Dolna 3
00-773 Warszawa

# Адкрыты ліст

Дарагая «Бядронка»,
свой ліст Табе пачну з майго верша.
Я ўжо не памятаю,
Хто сказаў мне ў першы раз:
***«Божая Кароўка, паляці ў неба,***
Прынясі мне кавалак хлеба»
Ці было гэта на лузе за КАРО,
Ці...
Калі квітнелі дзьмухаўцы,
Мы тады збіралі,
Божых каровак-сямікропачак,
Паклаўшы іх на палец,
Пасылалі гэтых малых кузурак,
У неба па хлеб для ўсіх нас,
Мы казалі ім ціха гэты загавор,
Верыўшы, што гэта здзейсніцца,
І мы будзем есці лустачкі хлеба,
З гарадоцкай пякарні,
Які, паводле рэцэпта мамы,
Паліем вадой з нашай студні,
І пасыплем цукрам,
Што стаяў у шафцы на ніжняй паліцы,
А Божая кароўка няхай далей
Слухае нашу шчырую дзіцячую просьбу.

У Гарадку няма ўжо пякарні, завода «Каро», няма студні ля вуліцы Крывой, з якой наша сям'я брала ваду. Я таксама вырас вельмі даўно і ўжо вялікі. Я жыву ў вялікім горадзе. Я ўсё яшчэ памятаю рэцэпт гэтага хлеба. Толькі што той хлеб іншы.

Цяпер не трэба адпраўляць божую кароўку па хлеб у неба. Цяпер можна купіць хлеб у краме «Biedronka» ў Міхалове. Гэта на Падляшшы, каля 10 кіламетраў ад Гарадка. Мая сям'я і сябры ездзяць туды на пакупкі. Як ведаеш, туды прыязджае шмат жыхароў з бліжэйшых гмін. Яны часта купляюць што-небудзь па г.зв. *Газетцы*. Яны робяць пакупкі на некалькі дзён, на два тыдні, на святы. Адлегласці да крамы ад дома на Падляшшы часта большыя, чым стандартна ў Польшчы.

Я не ведаю, ці Ты, «Бядронка», ведаеш, што польскія беларусы жывуць у гэтых гмінах.

Колькасць польскіх грамадзян, якія маюць беларускую нацыянальнасць, у адпаведнасці з Нацыянальным перапісам насельніцтва і жылля 2011 года, такая: гміна Гайнаўка — 2107 чалавек; гміна Нарва — 1456 чалавек; гміна Бельск-Падляшскі — 2601 чалавек; гміна Нараўка — 1520 чалавек; у горадзе Гайнаўка — 5100 чалавек, гміна Гарадок — 1117 чалавек; горад Бельск-Падляшскі — 4806 чалавек; гміна Міхалова — 435 чалавек; гміна Заблудаў — 1030 чалавек.

Я думаю, што сярод іх ёсць таксама вашы кліенты. Яны купляюць там, як і ўсе.

Дарагая «Бядронка», у мяне ёсць такая просьба да Цябе. Я прашу вас выдаваць (прынамсі раз на год) свой рэкламны бюлетэнь па-беларуску. Людзі чытаюць такую газетку, і яна дапамагае ім у пакупках.

24 сакавіка гэтага года Нацыянальная бібліятэка апублікавала папярэднія вынікі штогадовага дакладу пра стан чытання ў Польшчы. Паводле апытання, праведзенага на мяжы лістапада і снежня 2018 года, 37% рэспандэнтаў заявілі пра чытанне па меншай меры адной кнігі за апошнія дванаццаць месяцаў. Так што 63% не прачыталі ніводнай кнігі !!! Не ведаю, ці ёсць у польскіх беларусаў такія даследаванні чытання па-беларуску. Я думаю, што не.

Беларуская мова як родная хутчэй ужо памірае. На гэтай мове не так шмат магчымасцей чытання. Хаця тут таксама ёсць пісьменнікі і паэты. Выдаюцца ў Беластоку (па-беларуску) «Ніва» і «Часопіс»). Часам у мясцовых, муніцыпальных газетках сустракаюцца артыкулы на гэтай мове.

Крамныя газеткі чытаюцца (цікава, колькі людзей іх чытае? Больш, чым кніг?) часцей.

Я думаю, што Твая рэкламная газетка дапаможа такім чынам захаваць нацыянальную ідэнтычнасць.

Ці, па меншай меры, магла б Ты ўвесці ў продаж газеты і кнігі мясцовых беларускіх пісьменнікаў.

З павагай, з надзеяй не адказ
**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**

# Міхалова і Свіслач

Польскае Міхалова і беларуская Свіслач разам хочуць збіраць еўрасаюзныя сродкі ў 2021-2027 гадах. Абодва рэгіёны ўжо плануюць супрацоўніцтва па будучай заяўцы на сродкі ЕС у рамках новай праграмы «Польшча — Беларусь — Украіна» на 2021-2027 гады. У новай фінансавай перспектыве ЕС яна будзе рэалізаваны ў рамках «Еўрапейскага тэрытарыяльнага супрацоўніцтва», мэтай палітыкі згуртавання Еўрапейскага Саюза (Інтэррэг, праект рэгулявання) і новага Інструмента суседства, міжнароднага супрацоўніцтва і развіцця (праект пастановы), які заменіць існуючы Еўрапейскі інструмент суседства. У кастрычніку прадстаўнікі Свіслачы ў Беларусі прынялі ўдзел у сустрэчы з мэрам горада Міхалова Маркам Назаркам. Гэта яшчэ адзін сумесны праект абодвух рэгіёнаў. Месяц раней Рада гміны Міхалова накіравала зварот адносна стварэння пешаходнага пераходу ў Ялоўцы. Зварот быў накіраваны прэм'ер-міністру Рэспублікі Польшча Матэвушу Маравецкаму, Міністэрству ўнутраных спраў і адміністрацыі, а таксама дэпутатам, якія засядаюць у Парламенцкай групе па Беларусі.

Міхалова і Свіслач лучыць асаблівая сувязь — жыхары абедзвюх памежных абласцей не толькі суседзі, але і часта сямейнікі. Гэта супрацоўніцтва працягваецца здаўна. Зараз таксама важна сабраць сродкі ў рамках існуючых сацыяльных сувязей для развіцця абодвух рэгіёнаў.

Беларуская дэлегацыя хоча супрацоўнічаць з намі. Для нас гэта таксама шанц на развіццё, — кажа Марк Назарка, бургамістр Міхалова. — У рамках будучай перспектывы мы хацелі б сабраць сродкі на развіццё турызму, прасоўванне, але таксама і мяжы, інвестыцыі ў дзяржаўную сферу. Супрацоўніцтва і сумеснае набыццё сродкаў ЕС было б яшчэ адным натуральным крокам у супрацоўніцтве абодвух структур. Мы ўжо можам казаць пра жывое супрацоўніцтва, калі гаворка ідзе пра спорт і культуру. Беларускі бок запрасіў нас у Свіслач у лістападзе. У гэты час мы плануем падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве.

Супрацоўніцтва Міхалова і Свіслачы ўжо з'яўляецца часткай міжнароднай працы над будучай праграмай. Як паведамляе Сумесны тэхнічны сакратарыят Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва «Польшча — Беларусь — Украіна» прадстаўнікі Польшчы, Беларусі і Украіны ўпершыню сустрэліся ў рамках Сумеснага камітэта па праграмаванні (СКП) для падрыхтоўкі новай праграмы. У склад СПК выпучаюцца прадстаўнікі нацыянальных і рэгіянальных улад, а таксама ўстановы, якія прадстаўляюць эканамічных і сацыяльных партнёраў, а таксама грамадзянскую супольнасць усіх трох краін. Самая вялікая праблема СПК адаптаваць будучую праграму да асноўных патрэб рэгіёна і людзей, якія там жывуць.

**(лук)**

# Ваеннае дзяцінства

6 лістапада адбыўся ў Ваяводскай управе III Кангрэс нацыянальнай памяці, ладжаны Інстытутам нацыянальнай памяці і беластоцкім ваяводам. Кангрэс пачаўся са спявання „Роты”. У праграме было адкрыццё мерапрыемства з удзелам прэзаса ІНП Яраслава Шарка, які на кангрэс не з’явіўся, таму мерапрыемства адкрыў ваявода Багдан Пашкоўскі. Меў быць інаўгурацыйны даклад пра Музей Другой сусветнай вайны ў Гданьску, але дакладчыка таксама не было.



Затое было выступленне Станіславы Каралькевіч з Беластока, якая абурылася на рашэнне Гарадской управы Беластока, дзе „na wniosek mniejszości oraz Koalicji Obywatelskiej został przegłosowany wniosek o zabranie patrona ulicy Zygmunta Szendzielarza Łupaszki. Nasze środowisko działaczy opozycji antykomunistycznej, środowisko kombatanckie uczestniczyło w posiedzeniu tej rady, protestowało. I zdziwiona byłam, że nie protestowali i nie byli wtedy na sali starsi kombatanci. I zainteresowana jestem stanowiskiem tych starszych kombatantów, którzy walczyli jeszcze przed 56-m rokiem. Są tacy i się nie odzywają! Na sali widzę również żołnierzy, to jest ważna sprawa, przedstawicieli służb. Nie tylko żołnierzy, ale przedstawicieli służb. Nie należy chować głowy w piasek, trzeba odważnie powiedzieć co myślimy o takiej sytuacji. Bardzo proszę szanownych państwa żebyśmy zmyli tę hańbę na honorze naszego pięknego miasta, które miało odwagę nazwać imieniem majora Zygmunta Szendzielarza Łupaszki jedną z ulic. Które miało odwagę wybudować pomnik jego sanitariuszce z 5 Wileńskiej Brygady AK Ince. I zwracam się o podjęcie uchwały albo zajęcie stanowiska przeciwstawiającego się tej haniebnej rzeczy”. Быў яшчэ адзін выступоўца такой жа самай ментальнай канструкцыі, які заявіў, м.інш., што ў ІНП не павінны працаваць такія асобы, якія вынікі навуковых даследаванняў не супадаюць з яго ўласнымі пажаданнямі...

Прэзас беластоцкага аддзялення ІНП Пётр Кардэля выказаўся адмоўна наконт рашэння Гарадской рады, назваў яго непаразуменнем, шокам.

Асноўны даклад „Скрадзенае дзяцінства” зачытала Анна Адамус з варшаўскага аддзялення ІНП. Сказала яна, м.інш., што кожная круглая гадавіна, у тым выпадку 80-я гадавіна выбуху Другой сусветнай вайны, схіляе нас да рэфлексіі. Паўсюдна гаворыцца пра звыш 6 мільёнаў польскіх ахвяр Другой сусветнай вайны. У іх ліку каля трох мільёнаў склалі грамадзяне II РП яўрэйскага паходжання. Гэты лік не ахапіў усіх ахвяр, м.інш. ахвяр г.зв. савецкіх чыстак, валынскай разні ды тых асоб, якія, хаця ад пакаленняў жылі на польскіх землях, пасля 1945 года сталі грамадзянамі іншых дзяржаў, Літоўскай, Беларускай і Украінскай рэспублік; тыя ахвяры, часта палякі, былі ўлічаны як ахвяры тых дзяржаў. Варта яшчэ дадаць, што ў сувязі з палітычнай абстаноўкай у Польшчы, а так папраўдзе пад савецкай акупацыяй, нельга было палічыць тых асоб, якія ў 1945-1946 гадах па розных прычынах не мелі магчымасці вярнуцца ў краіну. Галоўным чынам былі гэта жаўнеры Польскіх узброеных сіл на Захадзе, а таксама палякі, якія на землях даўніх Усходніх крэсаў, а пасля вайны ў новых граніцах, былі арыштаваны і дэпартаваны ў лагеры. Лік тых асоб вагаецца каля мільёна шасцісот тысяч. Адным з найбольш палічальных лікаў з’яўляецца запрэзентаваны ў 2009 годзе рапарт, паводле якога ў час першай савецкай акупацыі ў 1939-1941 ды ў 1944-1945 гадах загінула прынамсі 150 тысяч асоб — гэта пацверджаны пайменна лік ахвяр. Іншы рапарт, які ў навуковым абароце, падае, што лік савецкіх ахвяр можа даходзіць да двух мільёнаў, але чакаем чарговых навуковых даследаванняў. Вядома напэўна, што з нямецкіх рук згінула ад 5476 тысяч палякаў да 5675 тысяч. Гэты лік ахоплівае 2700-2900 тысяч палякаў яўрэйскага паходжання. Да гэтага ліку трэба таксама прылічыць 100 тысяч асоб замардаваных на Валыні ў рамках г.зв. валынскай разні, каля шасцідзесяці тысяч на Валыні і каля сарака тысяч асоб ва Усходняй Малапольшчы.

У ліку гэтых ахвяр былі таксама дзеці, найбольш у час збройных канфліктаў безабаронныя. Так было, м.інш. у час Першай сусветнай вайны, калі расіяне прымянялі тактыку спаленай зямлі і ў выніку бежанства дзеці паміралі з голаду ці з бяздомнасці. І ў кожным збройным канфлікце так дзеецца. Але ў часе Другой сусветнай вайны была запланавана і скрупулёзна зрэалізавана планавая экстэрмінацыя польскіх дзяцей яўрэйскай нацыянальнасці. Таксама была запланавана экстэрмінацыя польскіх дзяцей польскай нацыянальнасці. Другая сусветная вайна забрала дзяцінства тагачаснаму пакаленню. Цяперашнія даследаванні псіхолагаў даказваюць, што ваенная траўма перадаецца аж у чацвёртае пакаленне. Стрэс, ляк, рэпрэсіі, крыўды перадаюцца з пакалення ў пакаленне. І тыя, якія дасведчылі расказаў бацькоў ці дзядоў, таксама перажываюць тое, чаго зазналі іх продкі. Аднак і тых, якія такіх расказаў не чулі, асцерагалі ў трэцім ці чацвёртым пакаленнях, што трэба запашваць харчы на выпадак вайны, што трэба хаваць золата, бо можа быць вайна. Такія траўматычныя досведы могуць быць перададаны нават цягам звыш дзесяці пакаленняў. У іх ліку грамадскія праблемы, якія кранаюць жыхароў польскіх земляў, а таксама былых савецкіх рэспублік — схільнасць да злоўжывання алкаголем можа перадавацца негатыўнымі эмоцыямі з пакалення ў пакаленне; значыць, досвед тае траўмы трывае звыш дзесяці пакаленняў пазней. Варта дадаць, што немцы і саветы не знішчылі дзяцінства выключна жывучым тады дзецям, але і іх чарговым нашчадкам.

Галоўнай роляй дзяцей, якую вызначылі ім каты, была роля назіральнікаў. Бачачы чужое ўзброенае войска, яны адчуваюць пагрозу. Далей дэпартацыі, забойствы, гвалты...

Чарговая катэгорыя гэта ахвяры. У 1939-1945 замардавана два мільёны польскіх дзяцей, у гэтым ліку 1800 тысяч дзяцей склалі асобы менш чым 12-гадовыя. У ліку двух мільёнаў 600 тысяч гэта польскія грамадзяне яўрэйскай нацыянальнасці. Экстэрмінацыя яўрэйскага насельніцтва пачалася ў 1939 годзе. Дзяцей зачынялі ў гетах, дзе гінулі галоднай смерцю. Выбух нямецка-савецкага канфлікту ў 1941 годзе прыпячатаў лёс яўрэйскай грамадскасці. У 1942 годзе наступіла ліквідацыя гетаў — дзяцей разам з бацькамі вывозілі ў лагеры знішчэння ў Трэблінку, Сабібор, Бэлжэц, Майданак, Аўшвіц, дзе малых дзяцей загазоўвалі. Варта таксама прыгадаць, што ў рамках генеральнага ўсходняга плана было знішчэнне польскіх дзяцей. Таму што адным з замыслаў тагачаснага ўсходняга плана было стварэнне пакаленневага прабелу, значыць замардаванне такога ліку мужчын, якія маглі б стаць сілай супраціўлення і пладзіць дзяцей. У Генеральным Губернатарстве польская сям’я мела права мець адно дзіця. Таксама сем’і, якіх вывозілі на прымусовыя работы, стараліся прымусіць мець адно дзіця. І вядомыя такія рэляцыі, калі здзяйсняўся прымусовы аборт. Чарговая праблема, гэта высяленне польскіх дзяцей з Замойшчыны. Летам 1943 года наступіла кульмінацыя тых дзеянняў. 116 тысяч дарослых асоб было вывезена, у тым ліку трыццаць тысяч дзяцей. Тыя дзеці ўжо ў дарозе ў Варшаву паміралі з голаду. Калі транспарт даехаў да месца прызначэння, частка дзяцей, якія задавальнялі расавыя крытэрыі, была скрадзена і выслана ў Германію ў рамках палітыкі лебенсборну. А тыя дзеці, якія не задавальнялі расавых крытэрыяў, былі перавезены, м.інш. у лагер у Аўшвіц. Ахвяры гэта таксама дэпартацыі савецкім акупантам. Наогул у часе тых чатырох хваляў дэпартацый кожная сям’я некага страціла, найчасцей найслабейшых, значыць, малых дзяцей.

Чарговыя катэгорыя гэта абаронцы. Пакаленне хаванае ў вольнай Польшчы было прывучана да патрыятызму. Калі пачалася вайна, у канспіратыўных структурах дзейнічала каля дзесяці тысяч гарцэраў. Найстарэйшыя з іх, якім было больш за 19 гадоў, змагаліся пад камандаваннем АК. Малодшыя дзеці выконвалі іншыя задачы, напрыклад, малы сабатаж. А наймалодшыя, якім было менш шаснаццаці гадоў, былі сувязнымі і разведчыкамі. Да канспіратыўных структур прыступалі дзеці, якія ў выніку дзеянняў абодвух акупантаў сталі сіротамі; часта было гэта адзінае месца, дзе маглі разлічваць на ахову. Наймалодшая санітарка Варшаўскага паўстання мела восем гадоў. На баку незалежніцкага падполля пасля 1945 года было пяцьдзясят тысяч ахвяр; некаторыя з іх асіраацілі сваіх дзяцей — чарговая група ахвяр.

Чарговыя катэгорыя гэта абманутыя, якія змагаліся на баку ці то нямецкага, ці савецкага акупантаў. Савецкі акупант прапанаваў супрацоўніцтва, напрыклад некаторым прадстаўнікам нацменшасцей, аблягчаў кар’еры ці то ў дзяржаўнай адміністрацыі, ці ў вайсковай адміністрацыі.

Чарговыя катэгорыя гэта акалечаныя, гэта тыя, якія штодзённа сутыкаліся з людскім цярпеннем. Найважнейшы сіндром ваеннага сіроцтва — аж паўтара мільёна дзяцей было поўнымі або частковымі сіротамі. Акалечаныя гэта літаральна акалечаныя фізічна, якім не было магчымасці медыцынскага вылячэння. Каля 320 тысяч дзяцей было фізічна акалечаных і патрабавала неадкладнай медыцынскай дапамогі. Невядомы лік дзяцей, якія патрабавалі псіхіятрычнай апекі, гэтых траўмаў тады ніхто не даследаваў. Тыя дзеці, якім у 1940-1960-х гадах ніхто не паказаў маральных арыенціраў, уцякалі ці то ў алкагалізм, ці ў злачынную дзейнасць.

Апошняя катэгорыя дзяцей гэта эмігранты; гэта тыя, якія з пекла Сібіры разам з арміяй Андэрса ўцяклі, якія бадзяліся па цэлым свеце, г.зв. *tułacze dzieci*. Гэта васямнаццаць тысяч дзяцей, якія не маглі вярнуцца ў сваю краіну. У гэтым ліку эмігрантаў трэба помніць пра тых, якія да 1939 года пражывалі на Усходніх крэсах, а ў 1945 годзе сталі грамадзянамі іншай дзяржавы. Некаторым з тых асоб ніколі не дазволена вярнуцца нават у пасляваенную Польшчу.

У выніку Другой сусветнай вайны згінуда два мільёны дзяцей, у тым ліку шасцьсот тысяч з яўрэйскай грамадскасці. Дзвесце тысяч дзяцей было зняволеных у рамках палітыкі лебенсборну. З гэтага ліку пасля вайны ў Польшчу вярнулася ад пятнаццаці да трыццаці адсоткаў, але яны вярталіся ў Польшчу як немцы — іх жыццё было да канца зламанае. Ад ста пяцідзесяці да ста сямідзесяці тысяч дзяцей было дэпартавана на тэрыторыю тагачаснай Расіі. З таго ліку васямнаццаць тысяч выйшла з арміяй Андэрса. Канец вайны — восем з паловай мільёнаў дзяцей, з іх трыста дваццаць тысяч павінна атрымаць неадкладную медыцынскую дапамогу. Паўтара мільёна дзяцей сіротамі. Некалькі мільёнаў дзяцей хварэе псіхічнымі хваробамі. Кожнае дзіця, якое зазнала вайны, з тае вайны ніколі не выйшла.

Столькі Анна Адамус. Варта да гэтага дадаць яшчэ і такія даследаванні псіхолагаў, пра якія на кангрэсе не згадвалася. Менавіта дзіцячая памяць не толькі перадаецца чарговым пакаленням, але часта дзіцячы менталітэт трывае і ў дарослым жыцці. Менавіта дарослыя не заўсёды вызваляюцца са свайго дзяцінства, цяпер уяўляючы сябе нейкімі суперменамі. Апостал Павел у Першым пасланні карынфянам пісаў: „Калі я быў дзіцём, то як дзіця гаварыў, як дзіця думаў, як дзіця разважаў; а калі стаў мужчынам, то пакінуў дзіцячае”. Але чалавек нясе ў дарослась і траўмы свайго дзяцінства, якія вядуць да таго, што ён глядзіць на вонкавы свет насцярожанымі вачыма, бачачы ў бліжнім нейкую пагрозу, а нават ворага. З гэтага ахвота дапячы таму бліжняму, напрыклад, усхвальваннем такой асобы, да якой, у сваю чаргу, той бліжні насцярожаны. Асабліва ж лёгка даецца супермэнства ці *supermęstwo* ў адносінах да меншага, да меншасці. З таго і „ганьба” ад забрання цацкі, назвы вуліцы, прысвечанай спрэчнаму герою.

Аляксандр ВЯРБІЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Як параўняцца з дзяўчаткамі?

Кажуць — здалёк усё лепш відаць!

Маргарыта Якубоўская родам з Адэсы. Ад верасня вывучае беларускую мову.

— Яна выдатніца, — хваліць Маргарыту настаўніца Валянціна Бабулевіч, — імгненна вывучае беларускую мову. Я думаю, што яна ў будучыні прыме ўдзел у прадметным конкурсе.

Маргарыта, пакуль стала вучаніцай пятага «е» класа, хадзіла ў бельскую «чацвёрку». У новую школу ішла з душой у пятках. І не таму, што чакала яе даўжэйшая дарога. Не! Яна сумнявалася, ці палюбяць яе ў новай школе.

— Мінула крыху часу і я проста не веру, — кажа. — Тут у мяне ўжо больш сяброў як у старой школе. Усе ўсіх любяць, дапамагаюць.

Авангард пятага «е» класа», як прыкмецілі мы ў час сустрэчы, складаюць працавітыя і жыццярадасныя дзяўчаткі.

— Я хачу назваць імя Ксені Нічыпарук, — кажа настаўніца. — Яна піша граматна, без памылак. І разам Магду Астапчук, Лену Ваўтанюк, Вераніку Хурсу і Агату Сцепанюк. Іх энтузіязм перадаецца іншым сяброўкам з класа.

Дзяўчаты самі распавялі пра незабыўную паездку да Дзеда Мароза і ўдзел у конкурсе «Пазнай Беларусь». Частка з іх прыме ўдзел у дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Гэта дапаможа ўзбагаціць слоўнік, папрактыкавацца ў мове.

Паколькі здаровую частку класа складаюць хлопцы, мы пацікавіліся іх зацікаўленнямі. І, вядома, пачулі пра спорт і камп’ютарныя гульні.

— І тут ёсць кандыдаты ў выдатнікі, — кажа настаўніца. — Вось у апошнім часе вельмі падцягнуўся Крыстыян Рубаха. Яшчэ крыху і ён зраўняецца з дзяўчатамі. І, мабыць, пацягне ўгару за сабой сяброў!

Ці будзе так прыгожа — час пакажа!





Пяцікласнікі прыгожа і шчыра гаварылі пра сваіх любімых настаўнікаў. Як аказалася, у класе адны філолагі! Найбольш падабаюцца ім урокі англійскай і беларускай моў.

— Калі я ішла ў «тройку», мяне ўсе пужалі беларускай мовай, — прызнаецца Маргарыта Якубоўская, — а як прыйшла, то зразумела, што гэта мой любімы прадмет. І пазнаёмілася з найлепшымі сябрамі. З імі ўсё здаецца простым і магчымым!

**ЗОРКА**

Фота Ганны Кандрацюк

## УВАГА КОНКУРС!

### № 48-19

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 15 снежня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Стаіць дуб, на дубе дванаццаць гнёзд, у кожным гняздзе па чатыры сініцы, у кожнай сініцы па чатырнаццаць яек — сем чорных і сем белых.**

Г..

**Адказ на загадку № 44: Дым — (Каля носа ў’ецца, а ў рукі ўзяць не даецца). Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі Меланія Сурэль, Вікторыя Баркоўская, Кірыл Нямецінскі з Арэшкава, Марцін Галёнка з Нарвы, Юля Клімчук, Алена Пятроўская, Франэк Бяганскі, Юля Астапчук з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Зося Якімец, Давід Мартонік з Залук. Віншуем!**

Міра ЛУКША

## Падушачка бабулі

Самы блізкі з усіх прадмет –
падушка пуховая.
Калі шэры ўвесь свет,
у падушкі схове я.
Навалачка грэе дух,
са шчок слёзкі сушыць,
мякенькі гусіны пух
ціха сон варушыць.
Сніцца луг, зялёны гай,
гускі шчыплюць зелле.
А на навалачцы рай –
гусіна вяселле.
Гусак з гускай шыі гнуць,
белыя, шаўковыя,
гусянятак шнур вядуць
ў лугі атласовыя,
гладдзю пёркі вышыты,
крыжыкам раздолле.
Гусачкі як выліты,
адна ў адну ў полі.
З чарадой гусінай я
ў сон зялёны тэпаю.
Жоўценькай бусінаю
сонца бабкі Стэпы.

# Міфы старажытных беларусаў

Ці ёсць на Падляшшы такі дом, у якім цягам бягучага года не захоўвалі свянцонай вады? Ды чаму цэнім ваду са святых крыніц? Ці падумалі вы хоць раз пра гэта?

Вада, як першастыхія, заўсёды явілася лекавым сродкам. Яна таксама служыла ў лекавых замовах і прадказванні будучыні. Апошнюю справу ілюструе народная прыказка: Сказала, як у ваду глянула! Гэта пра людзей з паранармальнымі здольнасцямі, якія ўмеюць «прачытаць» у вадзе надыходзячыя няшчасці ці хваробы. Наша Падляшша, як даўно прыкмецілі людзі звонку, у гэтых справах — касмічны феномен.

З дапамогай вады праводзяць у нас амаль усе рытуалы і абрады, у тым ліку рэлігійныя. Вада, як сведчаць старыя падляшскія песні, раней дапамагала зладзіць «кантакт» на значную адлегласць. Яшчэ нашы прабабкі верылі ў такую «камунікацыю» і спявалі свае пажадальныя песні над ракой ці калодзежам. Праўда, усё гэта гучыць надта загадкава, быццам сапраўдная магія. Але тут няма месца на здзіўленне. Душа беларусаў надта моцна аб'яднаная са светам прыроды, адтуль столькі магчымасцей!

Сёння раскажам вам пра ваду. Наш адрэзак адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей».

## Вада

Нашы продкі дзялілі ваду на нябесную і зямную. Лічылі, што ў зямных водах хаваецца змей — сімвал зла і хвароб. Верылі, што нябесную ваду пасылае св. Ілья (у язычніцкія часы Пярун). У вёсцы Дабрывада спяваюць песню пра святога Юрыя, якія ключом адкрывае зямлю і прыносіць людзям і жывёле дождж і траву. За гэта яму ўюць вяночкі з зёлак і прыздабляюць імі рогі жывёлы.

Вада была з чалавекам ад нараджэння па смерць. Нованароджанае дзіця хрысцілі ў вадзе, каб такім чынам далучыць яго да грамады. Падчас вяселля бацькі асвячаюць маладых свянцонай вадой. У некаторых мясцовасцях аблівалі вадой гасцей, якія ехалі з маладой у хату хлопца.

Свянцонай вадой асвячаюць у нас магілы продкаў.

Вада неабходная ў народнай медыцыне. Такую ваду замаўляюць сакрэтнымі «малітвамі», якія народныя лекары атрымалі ў спадчыну ад сваіх прабабак ці сваякоў. Найбольшай сілай, па ўяўленні нашых продкаў, валодала вада з трох крыніц, дзе знаходзяцца цэрквы. Людзі лічылі ваду лекавай, калі ў ёй варыліся велікодныя яйкі або якой палылі іконы.

З вадой звязана шмат магічных павер'яў. Напрыклад, каб у хаце квітнела багацце, трэба ў Новы год памыць рукі і твар вадой з манетамі. Усе ведаем пра купальскую ваду, якая ачышчала ад скурных хвароб і прышчоў. На Падляшшы жывая вера пра ачышчальную моц вады ў Чысты чацвер перад Вялікаднем. Той, хто памыецца да ўсходу сонца, будзе ўвесь год здаровы! Таксама многа ў нас святых крыніц. Самай вядомай і чароўнай з'яўляецца «Крыначка» у Белавежскай пушчы. Ад гэтага месца названы нават царкоўны фэст — Крыначка. Свята ў другі і трэці дзень веснавой «Тройцы» прыцягвае мора пілігрымаў.

**(гак)**




*Карнэлія Порац з Нарвы ў ролі бабкі-гадалкі*

# Людзі пераймалі гукі жывёл і вады



У Гарадок прыбыў Аўгусцін Грышын. Ён родам з Расіі. Наш госць распавёў пра традыцыйную, этнічную музыку. Яна нарадзілася ад пранікнення гукаў прыроды. Раней у Расіі людзі спрабавалі пераймаць гукі жывёл і вады.

Спадар Аўгусцін прадставіў нам спевы ў горле і інструменты, якія здаліся нам вялікай навіной. Гэта было нешта іншае, аднак мы адчулі шмат супольнага з нашай культурай. Верагодна, такі сам творчы метад прымянялі і нашы жыхары Гарадоччыны, краіны ахінутай чароўнымі гукамі прыроды.

***Оля Варановіч і Юля Маркоўская, VIII клас ПШ у Гарадку***

Грэта ТОМАЛЯ
Кавалёвы Груд, ПШ у Міхалове

## Гэта Грэта

Летам пабываць на лугу,

Загараць і кветкі аглядаць,

Восенню колеры разглядаць,

Лісця поўныя жмені збіраць.

Зімой не ўключаць тэлевізара,

Толькі з бабуляй пабываць.

# № 48-19 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 44-2019:**

Вежа, кот, гара, сок, світанак, сняданак, на, код, тата, навык, каза, юха, міг, параход, тата, нарада. Восень, кіт, жук, нага, сказ, аснова, веды, гід, батат, Іра, ранак, ар, канат, юха, Ака, ход, Ада.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Наталля Кадлубоўская** з Бельска-Падляшскага, **Юля Засім, Іаанна Мусюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Мацей Дзярманскі** з Залук, **Сара Дэрпенская, Аліўка Порац** з Нарвы, **Кацярына Сурэль, Габрыеля Красько** з Арэшкава, **Вікторыя Залеўская, Дар'я Несцярук** з Орлі.

Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Szafa / Gospodyni | | | | | | | | | |
| | Fizyk | | Gazetka | | Sęk | Weganin | | Dialog | Jagoda | |
| | | | | | Wierzba | | | | | |
| | Sęk | | Cisza | Ciało | | | | | Kot | |
| Dźwięk | | | | Igła | | | | | | |
| | | | Sto | Krok | | | | | | |
| Kasztan | | | | | | | Sto | | | |



# «Васілёчкі» адсвяткавалі 55-гадовы юбілей

Беларускі хор песні і танца «Васілёчкі» 23 лістапада ў Пачатковай школе № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мове імя Ярасалава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім святкаваў свой юбілей — 55-годдзе дзейнасці. Да гэтага вялікага музычнага мерапрыемства доўга рыхтаваліся харысты «Васілёчкаў» пад наглядам свайго мастацкага кіраўніка Міколы Фадзіна і харэографа Людмілы Фадзіны і па-акцёрску запрэзентаваліся перад публікай. На святкаванне прыбылі таксама папярэднія мастацкія кіраўнікі і спевакі, якія доўгія гады захаплялі большчан. Многа публікі сабралася ў вялікай спартыўнай зале бельскай «тройкі» і былі рады, што маглі паслухаць беларускія песні і паглядзець харэаграфічныя распрацоўкі з беларускімі народным танцамі, якімі суправаджалі свой спеў харысты «Васілёчкаў». Разам са сваімі папярэднікамі ўжо 55 гадоў прапагандуюць яны беларускую культуру на Беласточчыне і ў Польшчы, выступалі ў многіх гарадах Беларусі: у Мінску, Гродне, Віцебску, Кобрыне, Слоніме, Бераставіцы, Смаргоні, Пружанах і іншых мясцовасцях.

— Наш беларускі хор «Васілёчкі» паўстаў восенню 1964 года ў Бельску-Падляшскім. Я тады жыў у Пасынках і, дазнаўшыся аб наборы да хору, пастанавіў, што буду ў ім спяваць. Ажно шэсць асоб з Пасынак тады ўступілі ў наш хор. Прыязджаў я тады на рэпетыцыі з сябрамі на матацыкле, а зімой дабіраліся пяшком. Мы тады былі маладымі і вельмі хацелася нам спяваць свае песні. У нас было непасрэднае сутыкненне з беларускай культурай і нашымі традыцыямі, якія мы вынеслі з родных вёсак. Я тады быў таксама вельмі актыўным карэспандэнтам і пісаў артыкулы ў «Ніву». Як пісьманосец у сваім раёне за тыдзень я прадаваў нават па 240 паасобнікаў «Нівы», што было вельмі добрым вынікам і нават галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі прыязджаў да мяне дамоў і дзякаваў за так паспяховае распаўсюджванне нашай газеты. Быў я актыўным таксама ў БГКТ. Усе нашы супольныя дзеянні, разам з выступамі з хорам «Васілёчкі», давалі нам радасць, што можам адкрыта ісці ў народ з беларускай культурай, беларускім словам, песняй і традыцыяй, — расказаў яшчэ да пачатку мерапрыемства Уладзімір Весялоўскі.

Як адзіны Уладзімір Весялоўскі спявае ў «Васілёчках» ад самага пачатку, хаця восем гадоў не выступаў у хоры, калі працаваў на Украіне.

Першапачаткова хор «Васілёчкі» арганізаваўся пры Бельскім аддзеле БГКТ. Пасля харысты пачалі дзейнічаць пры Бельскім доме культуры і пры ім дзейнічаюць па сённяшні час. Мастацкімі кіраўнікамі хору ў шасцідзясятых гадах былі Аляксандр Лукашук, Юры Шурбак, Міхал Артысевіч і Сцяпан Копа. Найдаўжэй, бо з 1970 года па 1990 год, мастацкім кіраўніком «Васілёчкаў» быў Сяргей Лукашук, шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры. У 1973 годзе хор прыняў назву «Васілёчкі». Пазней з хорам працавалі Аліна Негярэвіч, Уладзімір Сахарчук і Мікола Мяжэнны. З 2007 года мастацкім кіраўніком «Васілёчкаў» з'яўляецца Мікола Фадзін, якога выдатны рэзультат працы было відаць у час юбілейнага выступу «Васілёчкаў». Прыбыўшыя на святкаванне папярэднія мастацкія кіраўнікі і спевакі мелі магчымасць паглядзець займальны выступ цяперашняга складу хору, з якога пачалося юбілейнае мерапрыемства.

— Тут, у спартыўнай зале нашай «тройкі», добрая атмасфера і мы цешымся, што нашы песні і танцы так добра ўспрымаюцца. Мы ў «Васілёчках» працуем у карысць нашай культуры, заахвочваем іншых спяваць беларускія песні і вучым любіць родную мову. Каб добра запрэзентавацца, мы многа трэніраваліся, многа спявалі і танцавалі, — скажуць пазней харысты.

У пачатку святкавання запрошаных гасцей прывітала Альжбета Фіёнік — дырэктар Бельскага дома культуры, які бельскаму хору дапамагаў арганізаваць юбілейнае мерапрыемства. Падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі і бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі ўручылі харыстам «Васілёчкаў» узнагароды. «Залаты крыж заслугі» атрымаў Уладзімір Весялоўскі, «Сярэбраны крыж заслугі» — Надзея Федаровіч, а «Бронзавы крыж заслугі» — Васіль Іванюк, Анна Клімчук і Марыя Краўчук. Ганаровыя адзнакі міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП «Заслужаны для польскай культуры» атрымалі Ніна Бялецкая, Валянціна Календа, Барбара Андраюк, Аліна Мінкевіч, Валянціна Заброцкая, Міхал Мацеюк, Ян Троц, Юры Дземянюк, а васьмі іншым харыстам былі ўручаны дыпломы міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП за распаўсюджванне народнай культуры. Хор песні і танца «Васілёчкі» і яго арганізацыйны кіраўнік Ніна Бялецкая ад маршалка Падляшскага ваяводства атрымалі «Ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства», якую ўручыў намеснік маршалка Падляшскага ваяводства Марк Маліноўскі. Узнагароды бургамістра Бельска-Падляшскага за дзейнасць у карысць культуры атрымалі арганізацыйны кіраўнік хору Ніна Бялецкая і мастацкі кіраўнік хору Мікола Фадзін. Ганаровыя граматы харыстам ад Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве ўручыла яго дырэктар Ілона Юрэвіч. Зачытваліся віншавальныя лісты, між іншым, ад міністра культуры Рэспублікі Беларусь Юрыя Бондара. На святкаванне прыбылі таксама намеснік дэкана Бельскай акругі протаіерэй Юрый Багацэвіч, пасол Сейма Яўген Чыквін, намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень, войт Бельскай гміны Раіса Раецкая, бельскія радныя, госці з Рэспублікі Беларусь, дырэктар ПШ № 3 Пётр Нікалаюк-Стасюк, дырэктары іншых бельскіх устаноў і прадстаўнікі музычных калектываў, якія павіншавалі харыстаў з юбілеем. Харысты «Васілёчкаў» учулі многа цёплых слоў, пажаданняў і атрымалі многа кветак.



■ «Залаты крыж заслугі» атрымаў Уладзімір Весялоўскі (другі злева)

— Мы тут спяваем у галоўным апрацаваныя беларускія народныя песні, але частка нашага рэпертуару складаюць аўтарскія беларускія творы. Цяпер многа новага ў нашым рэпертуары. Падрыхтавалі мы цікавыя харэаграфічныя распрацоўкі фрагментаў беларускіх народных танцаў. Паколькі сёння юбілейнае святкаванне, будуць дапамагаць нам састаўляць акампанемент музыканты з Гродна, — сказаў яшчэ да выступаў мастацкі кіраўнік хору «Васілёчкі» Мікола Фадзін.

Прысутная на святкаванні мастацкі кіраўнік студзіводскай «Жэмэрвы» Анна Фіёнік праінфармавала, што ў час майстар-класаў вучыла харыстаў «Васілёчкаў» вядомым на Бельшчыне ў мінулым танцам «падыспан» і «карапет». Станцавалі іх разам з вакальным калектывам «Вечарніца» з Універсітэта залатога веку з Кобрына. Перад танцамі «Вечарніца» займальна выступіла з цікавым песенным рэпертуарам, даючы падмену бельскаму хору і спяваючы разам з «Васілёчкамі». Ніна Бялецкая ўдакладніла, што ў час юбілейнага мерапрыемства хацелі запрэзентаваць разнародны рэпертуар і рашыліся заспяваць таксама па-польску, па-расійску і па-яўрэйску.

— «Васілёчкі» спяваюць вельмі добра. Нам падабаюцца беларускія народныя песні і танцы ў іх выкананні, — заявілі спевакі з беларускага хору «Арляне» з Орлі, якога мастацкім кіраўніком таксама з'яўляецца Мікола Фадзін. «Арляне» таксама выступілі ў час юбілейнага святкавання.

— Атмасфера ў нашым хоры добрая, колькасць харыстаў большае, а мастацкі кіраўнік Мікола Фадзін, асоба з вышэйшай музычнай адукацыяй і вялікімі ўмеласцямі, стараецца многаму нас навучыць і падбірае цікавы рэпертуар для нашых выступаў. Нам вельмі падабаюцца нашы родныя песні і мы хочам прапагандаваць нашу беларускую культуру. Рашыліся мы, што песні будзем папаўняць фрагментамі народных танцаў, якія выконваем згодна з распрацоўкамі нашага харэографа Людмілы Фадзіны. Мы рады, што гэта падабаецца публіцы, — заявілі харысты «Васілёчкаў».

— Хор «Васілёчкі» выдатна спявае многа апрацаваных народных беларускіх песень. У іх выкананні цікавы таксама неапрацаваны фальклор. У харыстаў ёсць вялікія акцёрскія здольнасці і яны займальна выступаюць з інсцэніроўкамі народных абрадаў, — сказала Альжбета Фіёнік — дырэктар БДК і спецыяліст па тэатральнай дзейнасці.

«Васілёчкі» на святкаванне падрыхтавалі і цікава запрэзентавалі кароткую абрадавую сцэнку «Прадай, бабушка, бычка».

— Мы цешымся, што сёння сабралася так многа людзей і нам уручылі многа адзнак. Віншаванні і пахвальныя словы падбадзёрваюць нас да далейшай працы ў карысць беларускай культуры і да яшчэ большай актыўнасці нашага хору, — заявіла арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая і падзякавала за адзнакі, узнагароды, падарункі і пажаданні, а таксама падзякавала харыстам і іншым выступаючым. Падчас юбілейнага святкавання можна было паглядзець фотавыставу і пазнаёміцца з хронікамі і буклетам, выдадзеным да 55-гадовага юбілею хору песні і танца «Васілёчкі». Арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая ўдакладніла, што выстава, буклет, плакаты і банеры, якія тычыліся хору, былі рэалізаваны ў рамках праекта і фінансаваліся сродкамі з бюджэту Падляшскага ваяводства. Вядучая мерапрыемства, дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік, праінфармавала публіку, што юбілейнае святкаванне з'яўляецца 1250 канцэртам хору песні і танца «Васілёчкі». Праз яго правінуліся сотні спевакоў, з якіх многа ўжо памерла. Хвілінай маўчання сабраныя ўшанавалі Міколу Іванчука і Міколу Ваўрыновіча — харыстаў, якія выступалі яшчэ на юбілеі 50-годдзя дзейнасці «Васілёчкаў». Ад імя хору дырэктар Альжбета Фіёнік падзякавала суарганізатарам святкавання, спонсарам і масмедыям, якія трымалі патранат над арганізацыяй юбілейнага святкавання, у тым ліку «Ніве».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

❖Міхал МІНЦЭВІЧ

# Калісь весела было ў вёсцы

*Размова з **Янам ПОСТАМ**, пенсіянерам з Крывятыч Арлянскай гміны, 1954 года нараджэння.*



**❖ Ці Вы помніце сваіх дзядоў?**

— Мой бацька Міхал 1923 года нараджэння з Крывятыч, а маці Аляксандра 1922 года нараджэння, у дзявоцтве Бяроза, са Шчытоў.

Дзедкі Бярозы не памятаю, бо я нарадзіўся ў сакавіку, а на Варвару дзедка памёр; я ўжо пачынаў хадзіць. То мама ўспамінала, што я хадзіў каля дзедка: „Дзедку, дзедку", а дзедка казаў: „Забярыце, бо я ўжо буду на той свет выбірацца; я ўжо з табою не буду хадзіць".

А дзедка са стараны бацькі паходзіў з Тапчыкал. Бабуля Палашка з Крывятыч была за Кулікам у Малінніках, а калі ён памёр, тады прыступіў да яе Пост.

**❖ Што Вам вядома пра бежанства продкаў?**

— Бабуля Аксеня гэта другая жонка майго дзедка па маме. Расказвала мама, што калі дзедка прывёз яе пасля бежанства ў Крывятычы, то тут расла толькі крапіва. І сказаў: „О, тут мы будзем жылі". Нічога не засталі. Гэтая хата, у якой жывём, была пабудавана пасля бежанства, амаль сто гадоў таму.

**❖ У Другую сусветную вайну?**

— Бацька быў на прымусовых работах у Саксоніі, каля Лейпцыга. Калі бамбілі Лейпцыг, то ўсё дрыжала. Кампенсацыі за тыя работы бацька не атрымаў, хаця сведкі былі.

**❖ Ваша сямейства?**

— Брат Мікалай з 1948 года, сястра Марыся з 1950, я і пакойная сястра Вера 1957 года нараджэння.

**❖ Школа?**

— Яшчэ паўгода хадзіў у старую школу ў Мора. Вучылі з Орлі Ніна Война, Людміла Бэзюк, Таня Шайкоўская, пазней дайшла Таіса Кацэйка.

Памятаю, як вясною на дарозе каля школы разлівалася вада, што не прайсці. То часам і не хадзілі ў школу, бо як заходзілі прамоклымі, то сушыліся. Пасля, ужо ў новай школе, то было *фахова*.

У школьным будынку жылі настаўнікі Барвінскі, Баравік, Падолец і Зінкевіч. Вучняў было каля ста шасцідзесяці — многа. (Потым у былым школьным будынку ладзілі забавы дыска-пола; спынілі калі пачалі гарэць стадолы, а зараз там вырабляюць кухонную мэблю).

Кончыў восьмы клас і пайшоў у прафвучылішча ў Гайнаўку, на спецыяльнасць слесар-механік.

**❖ У школу даязджалі; якая была тады камунікацыя з Крывятыч?**

— Хадзілі тры кіламетры на чыгуначны прыпынак Арлянка; прыпынку Мора тады яшчэ не было. Вагоны былі з многімі дзвярмі, холадна. Помню, што яшчэ ездзілі *тарпеды* — два сінія вагоны. Даязджала мноства асоб: і Орля хадзіла, і Рудуты прыязджалі, Агароднікі, Крывая, Шчыты, Міклашы, Галады, Кашалі — усе збіраліся. У Арлянцы яшчэ сядалі, а ў Беразове ўжо так дабівалі, што як селядцы ў бочцы ехалі. З Бельска таксама даязджалі на работу. І весела было. А пасля, як спынілі рух цягнікоў, то мне не верылася, што зноў рэйкі зробяць. Пазней, калі я працаваў у Гаймаклесе, міжзаводскія спаборніцтвы ладзілі. А цяпер у Гайнаўцы нічога няма, і горад брыдкі, запушчаны. Бо Бельск, які ён ёсць, калі заедзеш, то чыставаты.

**❖ Былі і пэкаэсаўскія аўтобусы...**

— Пазней пусцілі, некалькі ў дзень, у Орлю з Гайнаўкі праз Крывятычы. Калісь па нядзелях курсіраваў аўтобус з Дубіч, то ў Крывятычах збіралася столькі людзей у царкву, што ўсіх не забіраў. А пасля поўдня аўтобус з Орлі вяртаўся праз Крывятычы.

**❖ А хто першым у вёсцы меў свой самаход?**

— Федзя Канопля меў „Сырэнку", пасля „Масквіча" і мяне ім вёз да шлюбу. У Орлі першы меў Жабінскі — „Варшаву-гарбуса", Пеця Кацэйка „Сырэнку", Янак Назарэвіч „Варшаву"...

**❖ Войска?**

— Служыў у 1974-1976 гадах. Перад войскам працаваў прыватна на будове ў Нарбута ў Меляшках за Гарадком. А ў ваенкамаце быў запісаны на курс камандзіраў аддзяленняў, але на той курс не паехаў. Хацелі мяне пакараць і адразу ў Замасць у Тэхнічную школу вайсковай авіяцыі. Быў пры абслугоўванні самалётаў — рыхтаваў катапульты ў „лімах". Пасля школы перавялі мяне ў Свідніцу, Полчын-Здруй за Кашалінам. Крыху служыў на аэрадроме, але найбольш у ангарах пры самалётах. Быў я камандзірам аддзялення і памочнікам старшыны роты, загадваў ротным магазінам.

**❖ Як адносіліся ў войску да людзей з Усходу?**

— Былі г.зв. Дні савецкага кіно на тэлебачанні. Малады *рочнік* мусіў аглядаць *Дзеннік*; і аглядалі. Але „нашы" хлопцы з Жэшаўскага хадзілі і кацапавалі; то я не мог таго сцярпець. Пазней, калі ўжо меў чын капраля, то дзяжурыў у казіно. І сустрэў я там украінца, быў швейцарам. Ён даведаўся, што я — праваслаўны і мы размаўлялі па-нашаму. Сказаў ён, што пражыў дзясяткі гадоў і сваёй мовы не чуў. І запрашаў мяне ў свой дом, але я пабаяўся туды хадзіць. А пасля былі са мною ў часці Пётр Назарэвіч з Орлі, Таранта з Тапчыкал і Пётр Карзун з Міклашоў. Я з Карзуном пайшлі да таго дзедка і Карзун часта яго адведваў, і піў; за тое, пэўна, і даўжэй пасля служыў. Памятаю такога сяржанта ўкраінца, які доўгі час мяне выпытваў, адкуль я дакладна паходжу. І калі я ехаў у водпуск, то загадваў мне: „Wania, masz przywieźć krzakówę, tam u was gonią". У водпускі прыязджаў, але на пабыўкі часта ездзіў у Быдгашч да добрага сябра Марка Шыманьскага.

**❖ Ці была прапанова астацца кадравым вайсковым?**

— Так. І цяпер шкадую, што адмовіў.

**❖ Ці бралі Вас у запас?**

— Ужо пасля месяца хацелі ўзяць, але не ўзялі.

**❖ А партыя? Многім прапанавалі...**

— Партыйным не быў. Двойчы мяне запісвалі: першы раз у войску, а другі раз у Крывятычах, калі назначылі мяне камендантам пажарнікаў у нашай вёсцы. То я абумовіў — калі атрымаем пажарнае абсталяванне. Абяцалі даць — не далі. У нас сакратаром быў Валодзя Шэршань. Хацеў мне даць партбілет, але я не ўзяў. У нашай вёсцы было шмат партыйных, толькі што пасля, калі чаго не атрымалі, самі адракаліся.

**❖ Пасля войска?**

— У 1976 годзе выйшаў з войска, а ў 1977 ажаніўся. А жонка Вера, са Старога Беразова, можна сказаць, прыйшла дадому сама. Акурат стала на работу ў калгасе бухгалтаркай. Канторы яшчэ тады ў вёсцы не было; і так пазнаёміліся. Пасля войска крыху працаваў трактарыстам у базе ў Моры.

**❖ Як у той час было з даступнасцю трактароў для індывідуальных гаспадароў?**

— Свой трактар, рускі, купіў у 1978 годзе, былі на надзелы. Наша сям'я ў той час мела найбольш гектараў у вёсцы. Польскія трактары „трыццаткі" былі добрыя, а чаму завозілі рускія — таго не разумею. Хаця цяпер то я свой рускі хвалю, бо ўжо столькі гадоў яго маю, што за той час тую трыццатку заездзіў бы. Бацька хацеў большы трактар, бо ж вялікая гаспадарка была. Не прызнавалі, аж у рэшце рэшт ледзь таго „Владзімірца" атрымаў.

**❖ Гаспадаркай валодаў Ваш бацька. Ці ён займаўся нейкай сельскагаспадарчай спецыялізацыяй?**

— Бацька займаўся вырошчваннем алеістых раслін — ільну, рапсу. Вазілі здаваць у Ягуштова, у Лянева, а пасля зрабілі склад каля Орлі, з боку Рудут. (Каля 1980 года ноччу высокія стагі льну згарэлі ў пажары і дзейнасць склада затухла — М. М.)

**❖ А пасля атрымання гаспадаркі ад бацькі чым Вы займаліся?**

— Калі я пераняў гаспадарку, то пачаў купляць машыны, напрыклад, першым у Крывятычах купіў прэс, нямецкі. Цягам дваццаці гадоў гадаваў малочных кароў — сорак штук. Меў умяшчальнік і ўсё. Гаспадарка была механізавана — спіханне гною, на месцы вада. Маладняк пасвіў. Кароў пасвіў толькі тры-чатыры месяцы, на другую атаву, бо першую збіраў. Заўсёды назапашваў сена.

**❖ Ваша прыватнае жыццё, дзеці?**

— Сын Марк і дачка Аня. Сын быў дзесяць гадоў манахам, пасля пазнаёміўся з дзяўчынай і выйшаў. Пасля ліцэя хацеў вучыцца на бацюшку, але быццам не было месца. І паступіў у Тэалагічную акадэмію, год павучыўся і перайшоў у Яблачына, быў дыяканам у Сімана ў Лодзі. Да таго быў таксама ў Грузіі, у Кірыла ў Маскве. З Лодзі пайшоў у Супрасль і выйшаў. Маю ўнука Серафіна. Дачка пасля ліцэя таксама скончыла тэалагічную школу ў Варшаве; і там працуе ў „Плею".

**❖ Як можна параўнаць Ваша дзяцінства з цяперашнім?**

— Калі я быў малы, то бацька жняяркай жаў, запражэ пару коней. Пазней з'явілася касілка. Меў таксама снопавязалку, з пяць гадоў. Але быў эскаэр, то рабілі людзям паслугі. Пасля трэба было два дні малаціць. У вёсцы былі машыны. Тады яшчэ не было сілавога электратоку. Абслугоўваць малатарню збіраліся людзі, і свая сям'я прыязджала. Рухавіком быў найперш „Эс", а пасля электрарухавік, але патрэбная была скрынка на стаўбе і падключэнне да лініі.

Пасля быў камбайн „Вістуля" — не было ў ім умяшчальніка на збожжа, трэба было чапляць мяшкі.

І здароўе было, і час, і весела было. Тадышняе жыццё было вясёлае — несумненна. Мой унук ведае толькі ноўтбук, тэлевізар, камп'ютар і больш нічога. Сядзеў бы цэлы дзень і там пстрыкаў тыя гульні. І цяпер ногі баляць. А калісь прыйдзеш дахаты, ага: „Маеш тое і тое, толькі ўрокі адрабі". Хутчэй пабяжыш, нажнеш зелля ці чаго, свінням. І пабяжыш бегаць і гуляць. А цяпер унука на ровар не выганіш.

Калісь у школе 8 сакавіка — акадэмія, Руздво — акадэмія, скетчы Янкі Купалы. Вучыліся, у школе пастаноўкі ставілі. А цяпер тое дыска-пола і скачуць як тыя бараны на пашы.

чытайце ☞ 11

# Зь верай у праўду Каліноўскага мы пераможам

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і яе намесьнікі разам з прадстаўнікамі дзяржаўнага кіраўніцтва Літоўскай Рэспублікі, Польшчы, Украіны і Рэспублікі Беларусь прысутнічалі на ўрачыстым набажэнстве з нагоды пахаваньня паўстанцаў 1863-1864 гадоў. У сувязі зь падзеяй Старшыня Рады БНР зьвярнулася да грамадзкасьці. Тэкст звароту:



„Шаноўныя суродзічы-беларусы,

Дарагія нашыя польскія і літоўскія суседзі і сябры.

Сёньня мы сьведкі вялікай гістарычнай падзеі. Нарэшце героі нашых трох народаў, паўстанцы, якія аддалі свае жыцьці за нашу і вашу свабоду, знойдуць свой спачын.

Кастусь Каліноўскі і ягоныя паплечнікі сталі натхняльнікамі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Каліноўскі стаў сымбалем барацьбы беларускага народу за вольнасьць, за свае нацыянальныя і сацыяльныя правы. „Каго любіш? Люблю Беларусь" — гэты пароль выкарыстоўвалі паўстанцы Каліноўскага. Гэты пароль нібы даў штуршок да нараджэньня нашай сучаснай нацыі і застаецца нашым паролем, нашым дэвізам па сёньня.

Вялікі гонар для нас быць сьведкамі доўгачаканага ганаровага пахаваньня гэтых людзей. Вялікі гонар — пакланіцца ім і ўшанаваць іхную памяць.

Героі-паўстанцы яднаюць нашыя тры народы: беларускі, літоўскі, польскі. Многія зь іх нарадзіліся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. Усе яны былі патрыётамі нашай супольнай гістарычнай айчыны, старадаўняй Літвы. І спачын яны знайшлі ў горадзе, які гэтаксама зьяўляецца сваім і для беларусаў, і для літоўцаў, і для палякаў: у Вільні.

Барацьба, якую вялі паўстанцы, праз 55 гадоў пасьля іхнае гераічнае сьмерці прывяла да абвяшчэньня незалежных Беларускай Народнай Рэспублікі, Літоўскай Рэспублікі і Польшчы.

Змаганьне Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў служыць нам моцным прыкладам. Нават забіўшы цела, ворагі ня здолелі забіць дух нашай вызвольнай барацьбы. І праз дзесяцігодзьдзі нашыя народы перамаглі, бо кіравала імі прага да Волі і Свабоды.

Незалежнасьць Беларусі сёньня зноў пад пагрозай. Але зь верай у нашую праўду, якую так часта ўспамінае ў сваіх артыкулах Кастусь Каліноўскі, мы пераможам. Беларусь будзе вольнай дэмакратычнай краінай, як нашыя сяброўскія Польшча і Літоўская Рэспубліка, з кім мы разам у сёньняшні ўрачысты дзень.

Вечная памяць і слава нашым героям!"



Частка сяброў Рады БНР




# http://belhistory.com

Напярэдадні перапахавання парэштакаў Кастуся Каліноўскага ў Вільні тэлеканал „Белсат" правёў апытанне пра гэтую постаць на вуліцах беларускіх гарадоў. Вынік аказаўся больш чым сумны. Яго называлі і пісьменнікам, і паэтам, і архітэктарам, і стваральнікам беларускай азбукі, і мастаком. Прычым адзін з апытаных звязаў імя Каліноўскага з нейкім паўстаннем супраць польскай улады. Такія адказы беларусаў сведчаць аб тым, што яны ўжо ўшчыльную наблізіліся да вызначэння „манкурты".

Зразумела, што нават пры такой неабазнанасці ў айчыннай гісторыі ў звычайных людзей, былі і застануцца тыя, хто разумеюць — без нацыянальнага погляду на мінулае не можа быць ніякай нацыянальнай самасвядомасці, а значыць, не можа быць і ўласна народа. І менавіта дзякуючы такім руплівцам у сусветным павуцінні з'яўляюцца сайты на гістарычную тэматыку, як, напрыклад, „Гісторыя Беларусі".

Дадзены сайт знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.belhistory.com** і выглядае даволі прываблівa, хоць і проста. Адразу бачна, што ён створаны на платформе Wordpress і мае дастаткова для таго, каб дасягнуць сваёй мэты — публікаваць артыкулы, якія ў асноўным грунтуюцца на аналізе розных гістарычных крыніц, такіх як прамыя пераклады, мемуары, дзённікі, перапіска, а таксама свае ўласныя меркаванні гісторыкаў. Пра гэта распавядаецца на старонцы „Аб праекце", выйсце на якую знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення побач з выйсцямі на нешматлікія іншыя рубрыкі.

„Задача праекта — збіранне і публікацыя ў канспектыўнай форме тэкставага і выяўленчага матэрыялу звязанага з гісторыяй, культурай і мастацтвам Беларусі, пачынаючы ад першабытных часоў да канца XX стагоддзя, з мэтай пашырэння ведаў пра іх і іх папулярызацыі. Артыкулы для сайта пераважна складваюцца метадам кампіляцыі (што не з'яўляецца плагіятам) на падставе навуковых і навукова-папулярных выданняў, на якія абавязкова даюцца спасылкі. Змест тэксту і падбор ілюстрацый не з'яўляюцца канчатковымі і па ходзе атрымання новай інфармацыі могуць дапаўняцца і неаднаразова рэдагавацца", — так вызначаюць уладальнікі сайта шляхі большага распаўсюду гістарычных ведаў. Яны таксама заклікаюць наведвальнікаў да дыялогу па тых ці іншых тэмах, якія закранаюцца ў артыкулах, на спецыяльна створаным на сайце форуме.

Варта адзначыць, што форум — гэта таксама адна са старонак сайта. Першыя допісы там пачалі з'яўляцца пяць гадоў таму. Тэмы самыя розныя — посттаталітарная культура, народнае ткацтва і вышыўка, новыя гістарычныя кнігі і гэтак далей. Таму „Форум" пераклікаецца са старонкай „Тэмы", якая мае падзелы на падрубрыкі — „Вайсковая справа", „Дзяржаўны лад", „Культура", „Насельніцтва", „Рэгіёны" і „Персаналіі". Кожная з іх змяшчае па некалькі дзесяткаў артыкулаў. Выйсці на іх пазначаны малюнкамі, што прыгожа аздабляе сайт.

Старонка „Гісторыя" таксама падзяляецца на падрубрыкі. Гэта „Старажытны перыяд", „Перыяд Русі", „Перыяд ВКЛ", „Перыяд Рэчы Паспалітай", „Перыяд Расійскай імперыі" і „Найноўшая гісторыя Беларусі". Чытачам „Нівы", пэўна, будзе цікавым пазнаёміцца з артыкулам „Пытанне аб Беластоку", дзе распавядаецца пра тое, як цяперашні цэнтр Падляшскага ваяводства далучалі да Беларусі і адлучалі ад яе.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 110 гадоў з дня нараджэння Яніны КАХАНОЎСКАЙ

Біяграфія руплівіцы беларускай справы Яніны Каханоўскай (дзявочае прозвішча Шабуня) даследавана вельмі мала. Вядома, што нарадзілася яна ў Менску 26 лістапада 1909 г. Яе маці Эмілія хадзіла ў тую самую школу, што і дочкі расейскага цара. Гэты факт з сямейнай біяграфіі згадвае ў сваё кнізе Уладзімір Арлоў. Яніна хадзіла ўжо ў савецкую школу, але беларуская незалежніцкая атмасфера ў сям'і (Яніна — родная пляменніца братоў Івана і Антона Луцкевічаў) звозіла на нішто савецкую ідэалогію, якую прышчаплялі звонку.

У Другую сусветную вайну была ў Саюзе беларускай моладзі, потым змушана выехаць з радзімы. Летам 1950 г. Яніна Каханоўская апынулася ў эміграцыі, у ньюйоркскім Гарлеме. Яна тады не ведала ні слова па-англійску і мусіла зарабляць на жыццё цяжкай працай. Але паводле яе слоў, тысячы кіламетраў, што аддзялялі ад савецкіх спецслужбаў, арыштаў і начных расстрэлаў, былі ўратаваннем і жыццёвай кампенсацыяй.

Спадарыня Яніна была замужам за вядомым беларускім дзеячам Яўгенам Калубовічам (Каханоўскім), узяўшы яго другое эміграцыйнае прозвішча. Як згадвае Уладзімір Арлоў, кватэрка Каханоўскай у Іст-Віліджы здавалася музеем, а яе бібліятэка складалася з суцэльных рарытэтаў. Каханоўская мела багатае рамантычнае мінулае, сябравала з Наталляй Арсенневай, вядомая яна і як бабуля папулярнага спевака Данчыка. Данчык пісаў, што візітоўкай яе незалежнай і шчодрай душы заўсёды была ўсмешка. Нават у сталым веку вельмі любіла падарожнічаць. Яна вельмі добра малявала і рабіла ілюстрацыі да некалькіх беларускіх кніжак.

Людзі, якія яе ведалі асабіста, згадвалі, як любіла Каханоўская паўтараць: „Я не вялікі чалавек, я проста доўга жыву". І смяялася ціхім і добрым смехам. Спадарыня Яніна нібы лучыла сучасных беларусаў з нашаніўцамі пачатку XX стагоддзя. Магчыма, людзі згадвалі правіла поціску трэцяй далоні і, дакрануўшыся да гэтае жанчыны, усведамлялі, што як бы дакранаюцца да Максіма Багдановіча, які трымаў на руках маленькую Яніну.

Але повязь была не толькі сімвалічная. Каханоўская лучыла людзей і фізічна. Так адбылося і з Надзеяй Абрамавай, адной са стваральніц і кіраўнічак дзявочага аддзела СБМ. У час выезду нацыянальных структур з Беларусі ўлетку 1944 г., фактычна кінутая БЦР, Абрамава мусіла сама ратаваць блізкіх. Ад таго мела крыўду на Раду і нават разарвала кантакты амаль з усімі беларусамі. Пасля сканчэння вайны Надзея Абрамава жыла ў Мюнхене, працавала ў Інстытуце вывучэння СССР. Менавіта ад Яніны Каханоўскай беларусы даведваліся пра жыццё Абрамавай у Мюнхене. Каханоўская засталася ці не адзінай беларускай, з кім былая кіраўнічка СБМ падтрымлівала пастаянныя кантакты. Спадарыня Яніна і паведаміла беларусам Нью-Йорка падрабязнасці пра смерць Абрамавай. Яніна Каханоўская атрымала альбом са здымкамі былой кіраўнічкі СБМ і пазней, разам з лістамі апошняй, перадала ў Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Дзякуючы Каханоўскай сённяшнія гісторыкі не маюць праблем з пісаннем біяграмы Надзеі Абрамавай. Жыццялюбная, усмешлівая спадарыня Яніна стала своеасаблівым лучнікам паміж кіраўнічкай СБМ і суайчыннікамі. Гэткую ж лучнасць Каханоўская мела калісьці з Наталляй Арсенневай, з Юльянай Дубейкаўскай.

Памерла Яніна Каханоўская ў Нью-Йорку 16 ліпеня 2005 г., пахавана на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

9 ☞ працяг

Калі была пара абмалоту, малацілі шырокамалоткай. Пару коней, манеж і цэлы дзень ездзіш на саначках, коней паганяеш. А цяпер моладзь гэтага не ведае, толькі ноўтбукі і больш нічога, не ведаюць нават табліцы множання — а калісь то была падстава.

Як сын быў у падставоўцы, бывала, клічуць. Кажу дырэктару (быў тады Мартыновіч): „Вазьміце на калена і...” А дырэктар: „Янэк, не маю права...”.

А калісь збярэмся каля крамы (была яна тады ў суседа), а выйдзе побач каторы настаўнік са школы з Мора, і... ужо нас няма. Усе паразбягаюцца. А цяпер стаяць вучні з настаўнікамі, як з каляжанкамі.

**❖ Кажуць, што зараз і характар вяскоўцаў памяняўся...**

— Цяпер на вёсцы няма таго супрацоўніцтва. Калісь людзі ўзаемна сабе дапамагалі. А цяпер толькі ўсё сабе, сабе.

**❖ Але яшчэ ў Крывятычах, як я заўважыў, людзі не замыкаюць панадворкаў на замкі. А ёсць і такія, якія маюць фортачкі да суседзяў і не трэба выходзіць да іх вуліцай.**

— У нас толькі пажылы каваль быў замыкаў панадворак. У мяне ёсць сядзіба за вёскай, там гараж і стадола, у якой трымаў 10 тон збожжа. І замкоў там няма, бо калі б злодзей хацеў, то замкі абрэжа. Па прычыне майго здароўя я завяршыў гаспадаранне. І асталіся ў мяне цюкі. Прыехаў купец з-пад Боцькаў; і здзівіўся, што не замыкаю.

**❖ Заўважаецца, што людзі амаль перасталі з сабою размаўляць.**

— То ж бачыш, якія цяпер людзі стаўляюць платы, высокія на два метры, абсаджваюць жываплотам, туямі. Зараз менш людзей. Пры Герку людзі будаваліся і складана было з бетонамяшалкамі, землечарпалкамі. То прыходзілі людзі, капалі пад фундаменты, залівалі. І ніхто не плаціў, бо заўтра да мяне трэба прыходзіць. І ўсе ішлі, ніхто не адмаўляў.

Калісь сядзелі дзяўчаты, хлопцы, спявалі, весела было. Але паўміралі тыя вясёлыя людзі і няма. Калісь прыйдзе Руздво, прыгожа спявалі, калядавалі, прыедзе бацюшка Такарэўскі. У Крывятычах мелі гвязду з фанарамі. Памятаю, прыехалі санкамі з Міклашоў, забралі гвязду ў Міклашы калядаваць. А цяпер няма ўжо каму калядаваць. Але як пачнуць дзесь з іншых вёсак хадзіць — „Ой, у нас грошы нэма”. Але кожны дае, але казаць кажуць. Было весела. Але тое жыццё ўжо не вернецца.

**❖ Але зараз настала мода на фальклор...**

— Цяпер нібы мода на фальклор ёсць, але згіне. Калі выйду на вуліцу і ідуць дзеці, то размаўляюць толькі па-польску. Калісь у Орлі хто чуў польскую мову? Але нашы людзі такія, нават старэйшыя — калі хто прыедзе, то мусім да яго цокаць.

Першы прыклад ідзе з праграмы нацыянальным меншасцям — беларускай, украінскай і літоўскай. Ідзе наша багаслужэнне і зразу на польскай мове, і бацюшкі, і біскупы. А чаму ў літоўцаў усё ідзе па-літоўску? Ёсць надпісы: слухай і чытай.

**❖ Дзякую за размову.**

❖ Размаўляў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

Жэня МАРТЫНЮК

* * *

*Георгію Данілюку*

Там, дзе Зубава ляжыць,
на ўзгорку дом стаіць,
хатку сосны акружаюць,
свае песенькі спяваюць.
Гэта Князева гара.
Расказаць пара прыйшла
пра сям'ю Данілюкоў,
што жыве тут ад вякоў,
дзе настрой заўжды вясёлы,
бо працуюць быццам пчолы
ад світанку аж да ночкі
Жоржык з Любай – галубочкі.
А сягоння будзе свята,
стол застаўлены багата.
Паважаным Жоржык стаў:
семдзясятку святкаваў.
Ён сусед у нас каханы,
прыкладай яго да раны,
і ніколі ў бядзе,
знаем мы – не падвядзе.
Добру жонку Жоржык мае
і “царыцай” называе:
смачна варыць і пячэ,
а з бутэлькі сок цячэ.
Прымі, Жоржык, прывітанні,
нашы шчыры пажаданні,
каб ніколі не хварэў
і вясёлы гумар меў.
Пра Цябе мы памятаем,
сто гадоў Табе жадаем,
на вачах – ніякіх слёз.
і заступніцтва з нябёс.
\- - - -
Ціха, сумна лес шуміць.
Князева гара ўсё ж не спіць.
Чаму час хутка мінае?
Можа, Жоржык адказ знае?..

15.11.2019

# Саўляны разбудоўваюцца

Саўляны — даволі вялікая вёска пад Беластокам — налічвае 415 чалавек. Яна адна з прыгажэйшых у Супрасльскай гміне Беластоцкага павета і ў шпаркім тэмпе разбудоўваецца. Пры асфальтавай дарозе да сяла ў чыстым полі ўжо адкрылі і ў далейшым адкрываюць новыя фірмы ды будуюць вялікія магазіны і склады. Там, дзе зараз іх найбольш, зрабілі прыпынкі для аўтобусаў гарадскога транспарту ліній № 1 і 13. Дарога ў Саўляны вядзе, між іншым, праз лясны масіў за горадам і мае крутыя небяспечныя павароты. На іх фіксавалі дарожна-транспартныя здарэнні перш-наперш у галалёдзіцу або пасля вялікіх ападкаў мокрага снегу зімой. Цяпер тут будуюць прамую ды шырокую дарогу ў лесе ў іншым месцы ды веласіпедную сцежку. Раней дарожкі для веласіпедыстаў тут не было.

За апошнія пяць гадоў за вёскай і пры сасновым лесе, між іншым, па вуліцы Алейкавай (Alejkowej) прыбыло шмат мураваных аднасямейных дамоў, а для вёскі — больш за сотню новых жыхароў. Зараз на дахах многіх дамоў пастаўлены фотаэлектрычныя ўстаноўкі. Прыбыло новых платоў і брам на панадворкі, на якіх сцяжынкі пракладзены з чырвонай брусчаткі. Тратуары на вуліцах пераважна з шэрай брусчаткі. Усю ноч гараць лямпачкі вулічнага электраасвятлення. На дошцы для аб'яў у цэнтры Саўлянаў я бачыў многа абвестак ад ахвотных купіць сабе пляцы (зямельныя ўчасткі) для новых пабудоў у вёсцы або ў бліжэйшай ваколіцы. Саўляны разбудоўваюцца. Можа зноў адкрыюць прадуктовую краму? Раней была, але яе закрылі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**1.** удар далонню па шчацэ, знявага, **2.** старажытнагрэчаскі матэматык, „бацька” геаметрыі, **3.** хімічны элемент н-р 19, **4.** сваякі, **5.** аўстралійскі страўс, **6.** вяака, **7.** агароднінная расліна, якую аплакваем рыхтуючы ў ежу, **8.** футбаліст, які перашкаджае форварду, **9.** танец Лявона з жонкай, **10.** мацярык з Гімалаямі, **11.** лясны кабан, **12.** адзінка частаты пераменнага электратоку.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | 2 | | | | | | |
| | | | | | | 3 | | | 4 | | | |
| | | 5 | 6 | | | | | | 7 | 8 | | |
| | | | 9 | | | 10 | | | | | | |
| | | | | | | | 11 | | 12 | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Царэўна, экзотыка, дрыблінг, абсяг, прыязнасць, выгляд, крыкун.

Рашэнне: **Да ўсяго трэба прывыкнуць**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 01.12 — 07.12

**(22.03. — 20.04.)** Пойдзеш як бура; поўны поспех на працы і ў любоўных змаганнях. Уключыцца ген сапернiцтва. Сярод сяброў і радні добрая атмасфера. Пільнуйся ад інфекцый. На працы прадстаў кіраўніцтву свае прапановы, асабліва калі ты з першых дзён знака. 1-5.12. могуць да цябе насцярожыцца іншыя.

**(21.04. — 21.05.)** 1-5.12. нявыгадныя абавязкі; выкрунешся ад іх, час правядзеш з сябрамі. Горача ў спальні. З аптымізмам глянеш на свет. Час спрыяе наладжванню знаёмстваў. 1-4.12. ніхто не адмовіцца ад сустрэчы з табою. З 6.12. працуй у табе таленты. Не ўваходзь з шэфам у канфлікт, саступі дарогу. Пры грашах парайся з кімсьці. Дыета не заяц, не ўцячэ.

**(22.05. — 22.06.)** Твая праца не пойдзе ўпустую (перад канцом года бачны здабыткі). 2-4.12. на ўласныя вочы ўбачыш праўду. Мілыя спатканні і новыя знаёмствы. Флірты і раманы хутчэй толькі ва ўяве. Не чапляйся да радні і сяброў. Фінансы на плюс. У кар'еры пашукай новых шляхоў, рэкламуйся, пакажы свае найлепшыя бакі. Са здароўем не найлепш, будзеш стомлены, са слабым імунітэтам. З 6.12. (да 10.12.) абавязкова схадзі да лекара.

**(22.06. — 23.07.)** Не будзеш наракаць на недахоп любоўных выбараў; не кожнай прапанoвай мусіш пакарыстацца. 1-3.12. можаш мець усяго па самыя вушы! Венера прыцягне да цябе сяброў, падкіне цікавыя задумы. Можаш нават супраць сябе пачаць нейкі флірт. З 6 (да 10.12.) у тваім жыцці можа паявіцца хтосьці, хто закруне табе ў галаве. Новыя абавязкі (іх многа ў снежні) прымеш з прыемнасцю. Прыйдуць цікавыя прапановы новай працы; з выбарам пачакай да 14-17.12. — будзе сапраўды фантастычная прапанова! Схадзі да лекара. Усюды бяры з сабой бутэльку з вадой.

**(24.07. — 23.08.)** Добра выконвай абавязкі. Даводзь да канца пачатае. Не правакуй ворагаў і не спакушай лёсу. Аптымізму не страціш. Пабудзеш дзесьці далёка, хай нават у марах. Аднаўляй старыя кантакты. 2-4.12. абмяркоўвай планы на канец года. 1-5.12. адшукай старыя знаёмствы. З 6.12. (да 10.12.) не плануй важных выступленняў, службовых сустрэч.

**(24.08. — 23.09)** Інтуіцыя ўзмоцніцца, паправіцца настрой. Будзеш шчаслівы і споўнены. Вельмі добры ўвесь снежань! Афармляй цяжкія справы, — прапхнеш усё на чым табе залежыць. 1-5.12. моцна адчуеш, што цябе кахаюць. Душой кампаніі не будзеш. 2-4.12. трапна ацэніш сітуацыю, не дасі вывесці сябе пад дурнога хату. 6-7.12. не занядбоўвай сваіх абавязкаў. Трапна ацэніш кан'юнктуру, неўзабаве будзеш мець ад таго карысці. Хваробы павінны цябе абмінаць.

**(24.09. — 23.10.)** Іграй на сябе. Толькі адзін можаш дасягнуць мэты. Але 1-5.12. не ўдасца табе абмінуць неадназначных сітуацый. Планы могуць рэалізавацца досыць цяжка. Магчымыя канфлікты і выбухі зайздрасці. 1-5.12. гарачыя рандэву. Думай аб сабе. Новы бізнес пачынай 1-5.12., пахваляць цябе нават працаўнікі. Загружай «батарэйкі» на атракцыёны пасля 20.12. Дбай асабліва аб пячонку.

**(24.10. — 22.11.)** Энергія, жыццярадаснасць. 2-4.12. размовы аб інтарэсах пойдуць па тваёй думцы. Чакай больш бонусаў ад жыцця. Узляціш! Чакае цябе мядовы месяц. Прылічу касы; у фірме на цябе зваляцца самыя нялёгкія заданні. Але азірайся на тых, хто не паспявае. 2-4.12. пераканаешся, як добра мець кампаньёна. Еж сонечныя фрукты.

**(23.11. — 22.12.)** Удалы ўвесь снежань. Квітнее кампанейскае жыццё. Будуць цябе любіць, захапляцца табою. Хутка выканаеш абавязкі, паімпрэзуеш. Будзеш падтрымкай для іншых. На працы паканчай усё адкладзенае, хай нават у кідком на мэту. Хаця са здароўем і імунітэтам крыху слабей. Да народжаных у першыя дні знака ідуць большыя грошы.

**(23.12. — 20.01.)** Лёс табе спрыяе як ніколі! Не праваронь жыццёвага шанцу! Разлічвай на шчасце ва ўсіх планах. У пары гармонія і паласцьб. Убачыш таго, хто табе найбольш пасуе і шчасціць. На працы давядзеш да канца важкія справы, магчымая прэмія. Не пазбягай лекараў.

**(21.01. — 19.02.)** Што ішло гладка, пачне ўскладняцца. Папрасі дапамогу. Усё ж будзеш мець някепскі настрой, будзеш творчы. У пары таксама «сходы», блізкія не вельмі схочуць спяшацца з парадамі. На працы не бярыся за новае. Дбай аб свае цела і адпачынак.

**(20.02. — 21.03.)** Не пашкадуеш адважных рашэнняў. У самотных пацэліць Амур. Магчымыя замяшанні і непаразуменні. 2-5.12. будуць цябе любіць і адорваць сімпатыяй. 2-4.12. спадзявайся вестак з замежжа, варта асвяжыць кантакты. На рабоце серыя памылак, згубаў, дэзарыентацыі; справішся з гэтым. З 6.12. незвычайныя сны і натхненне. Дантыст на гарызонце!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Аддадзеная апошняя павага

## — пахаванне **Кастуся Каліноўскага** ў Вільні



■ На ўрачыстасці ў Вільні прыехала шмат беларусаў з дзяцьмі, якія таксама трымалі бел-чырвона-белыя сцягі.



■ Прысутнічала некалькі тысяч вернікаў, у тым асноўная большасць з Беларусі. Таму частка набажэнства праходзіла таксама на беларускай мове. На здымку мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.



■ На гарматнім лафеце ўрачыста перавозіліся парэшткі Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага.



■ На ўрачыстасцях у Вільні прысутнічалі найвышэйшыя ўлады Польшчы і Літвы. На здымку прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда з жонкай, прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа з жонкай і прэм'ер-міністр Польшчы Матэвуш Маравецкі.




■ Жалобнае шэсце прайшло праз Вострую браму да могілак Росы




■ Усярэдзіне капліцы з трунамі Кастуся Каліноўскага і дзевятнаццаці іншых паўстанцаў 1863-1864 гадоў на віленскіх могілках Росы.



■ Удзельнікі віленскіх урачыстасцей маліліся ў капліцы за ўпакой паўстанцаў



■ Жалобным шэсцем ад Вострай брамы да могілак Росы завяршыўся другі дзень урачыстасцей пахавання паўстанцаў 1863-1864 гадоў. Усё адбывалася пры ўзнятым настроі са сцягамі, znічамі, патрыятычнымі спевамі і беларускімі заклікамі.

ISSN 0546-1960